PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 49 (1960) ГОД XXXVIII БЕЛАСТОК 5 СНЕЖНЯ 1993 г. ЦАНА 3000 зл.

## ЦІ ДАЗВОЛІМ ПУШЧЫ ПАМЕРЦІ?



Белавежская пушча гіне на нашых вачах. Старэйшыя людзі, якія ведаюць яе яшчэ з пачатку мінаючага ўжо стагоддзя, калі нейкім чынам трапляць у сучасныя нетры, ад жаху доўга не могуць прыйсці да сябе.

Пушча прападае! Такое сцвярджэнне выходзіць са шмат чыіх вуснаў не дзеля выклікання ўсхваляванасці, але як адлюстраванне найпраўдзівейшай праўды! І хаця ў апошніх пару гадах эксплуатацыя пушчанскай драўніны рэзка панізілася, то ўсё-такі пушчу сякуць надалей. Сыравіны пастаянна дамагаецца гайнаўская дрэваапрацоўчая прамысловасць. Апрача яе пушчу высмоктваюць дробныя лесапільшчыкі ці вытворцы панелі, паркету, мазаікі, якіх намножылася ў апошні час, быццам тых кляшчоў. Пушча кліча паратунку!

Сем гадоў таму ўсю пушчанскую плошчу, супольна з яе перадполлем, палічылі зонай ахоўваемага краявіду. Гэтая форма аховы практычна аб нічым не вырашае. Дзесятая частка пушчы (вядома, на польскім баку!) з пачатку 20-х гадоў ахоўваецца як нацыянальны парк. Гэта найлепш захаваны фрагмент, шкада толькі, што ён даволі невялікі (каля 5,4 тыс. га). Намаганні, каб пашырыць нацыянальны парк на апошнюю частку пушчы, або прынамсі на яе палову, не даюць ніякага рэзультату, хаця вядуцца ўжо дзесяць з лішнім гадоў. Калі справа набліжаецца да вырашальнага пункта, як на зло мяняюцца кіраўнікі адпаведных ведамстваў, або казыром стае лясная адміністрацыя, і ўсё пачынаецца нанава. Проста, зачараваны круг!

Ахоўнікі ад некалькіх гадоў змагаюцца ўжо толькі за тое, каб хаця б давесці да пашырэння парку на яе найбліжэйшае наваколле. Выніку пакуль няма яшчэ аніякага! Магчыма, удасца стварыць на тэрыторыі ўсяе гаспадарчай часткі пушчы краявідны парк. Пакуль што, існуе тут 13 запаведнікаў прыроды, параскіданых па цэлай яе тэрыторыі. Разам яны займаюць плошчу амаль 2,4 тыс. га. У найбліжэйшы час плануецца стварыць 10 чарговых запаведнікаў.

На згаданым абшары знаходзяцца і помнікі прыроды. Апошняе (са жніўня г.г.) распараджэнне Беластоцкага ваяводы павысіла іх агульны лік да 842 — з чаго 838 выпадае на дрэвы, а 4 на валуны. Дрэвы захоўваюцца ў групах (разам 181 экземпляр) і паасобку (657 экз.). З паасобных відаў найбольш ахоўваюцца дубы (586), затым — сосны (71), ясені (62), елкі (55), ліпы (27), клёны (14), грабы (9), бярозы (8), вязы (3), вольхі (2) і адна тапыля.

Усё ж, мала гэтага, каб захаваць пушчу. Ці дазволім мы ўсе ёй памерці?

Я чуў апошнім часам, што ў Гайнаўцы ствараецца Таварыства прыяцеляў Белавежскай пушчы. Ці яно ў нечым паможа жамчужыне — пабачым! Калі згуртуюцца сапраўдныя прыяцелі, можа з гэтага нешта атрымацца!

**ПЁТР БАЙКО**
**Фота Аляксандра Вярбіцкага**



## У ОРЛІ ШКОЛА ЖЫВЕ!

Некалькі гадоў раней першым вядомым пунктам пры ўездзе ў Орлю з бельскага накірунку была хата Ляшчынскіх. На другім баку вуліцы гадамі будавалася новая школа. Намнога хутчэй ля хаты Ляшчынскіх пабудаваная была прыгожая праваслаўная каплічка. Відаць у гэтым знак часу. Але і школа, хаця марудна, але набірае выгляду. Школьны будынак абведзены рыштаваннямі — якраз звонку тынкуюць і малююць сцены.

У школе самыя звычайныя клопаты. Як паінфармаваў дырэктар Юры Грыгарук (часова замяшчае дырэктарку Анну Васілюк, якая ў дэкрэтным мацярынскім водпуску), у школе запасу паліва на тыдзень. Школа атрымала дадаткова 20 мільёнаў злотых, але гэтага хопіць толькі на 12 тон вугалю, калі школьная кацельня спальвае адну тону за суткі. Што будзе далей, невядома.

Усё-такі ў школе будаўнічыя працы працягваюцца. Здадзена 5 залаў унізе, якія не былі скончаны да адкрыцця. Да поўнага завяршэння пабудовы застаецца адна, але сур'ёзная інвестыцыя — заканчэнне гімнастычнай залы.

Войт гміны выступіў з прапановай перанаць (скамуналізаваць, як гэта называецца ва ўрадавай тэрміналогіі) гмінай будынкі старой школы (у якім захавалася, для прыкладу, абсталяванне кухні) ды незаконччаны жылы дом, прадаць іх, а грошы з продажу прызначыць на заканчэнне гімнастычнай залы.

Цяпер, у сувязі са спыненнем самаўрадавай рэформы, у тым ліку перадачы школьніцтва гмінам, становішча робіцца няясным.

Наогул, утрыманне аграмаднай забудовы новай школы было б, як можна спадзявацца, вялікім цяжарам для гмінных фінансаў. Напрыклад, кошт вонкавай тынкоўкі гэта каля 1,5 мільярда злотых, а на ацяпленне трэба каля 360 мільёнаў злотых. У гміне ёсць яшчэ адна школа, у Маліннікаx, у якой вучыцца больш 100 вучняў. Іхны пераход у Орлю, мэтазгодны з чыста практычнага пункту гледжання, крыху інакш выглядае з грамадскага пункту погляду. Як заўжды, парушаецца пры такой нагодзе натуральнае асяроддзе навучання і непазбежна скарачэнне настаўніцкіх штатаў. І без таго настаўніцкае асяроддзе палохаюць планы пабольшання г. зв. „пэнсум" (мінімум абавязковых гадзін на штат).

На жаль, не мог я спытацца пра погляд войта гміны Орля, спадара Міхала Іванчука на складаныя школьныя праблемы, бо якраз па службовых справах паехаў ён у Бельск.

Арлянская школа вялікая не толькі памерамі, але і колькасцю вучняў, якія вывучаюць беларускую мову: 143 дзетак на агульны лік 229 навучэнцаў. Навучаюць яе дзве спецыялісткі — беларусісты Анна Шыманская і Яўгенія Тхарэўская, якія працуюць на поўных штатах. Апрача гэтага частку заняткаў вядзе русістка Галена Адзіевіч.

Наведваю ўрок беларускай мовы ў III класе, які вядзе Анна Шыманская.

☞ *Працяг на стар. 8*

 

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Jeśli ludzie głosowali na SLD, to z nadzieją na powrót dawnych czasów, gospodarki bez bezrobocia, kiedy można było niczego nie umieć, mało co robić, a zarobić na życie... Ludzie bronią się i idealizują dawną krainę szczęśliwości, kiedy obecnych problemów nie było. Oczywiście tamten stan nie wróci, ale wielu o nim śni i jest to podstawowy dramat krajów tej części Europy. Ten sen o przyszłej iluzorycznej krainie szczęśliwości jest genezą powrotu do władzy sił postkomunistycznych. Ale nie powrotu komunizmu,* — **сказаў пасол УД Ян Мар'я Ракіта**

*(Rzeczpospolita, nr 260)*

* * *

*W latach 1989—1991 ogromna ilość fachowców — dyrektorów została wyrzucona. Wygrywali oni konkursy na dyrektorów, ale kuratorium ich nie powoływało, a powoływało nieznane osoby, których jedyną zasługą było to, że z kimś tam się przespali. Kiedyś przyszedłem na naradę do kuratorium, tam usłyszałem mowę o 45 straconych latach. Ten kurator (białostocki —* рэд.*) był wcześniej członkiem PZPR, I sekretarzem KM PZPR. Ale powiał wiatr historii, a on na naradę przyprowadził kilku księży,* — **сказаў пасол СЛД Станіслаў Малішэўскі.**

*(Gazeta Współczesna, nr 221)*

* * *

*Program SLD jest w dużej mierze programem liberalnym, zbliżonym z poglądami członków UD... W sytuacji, gdy zabrakło w Sejmie partii o zabarwieniu katolickim, PSL ma obowiązek reprezentowania tradycyjnych wartości* — **сказаў пасол ПСЛ Адам Чэслаў Даброньскі.**

*Gazeta Współczesna, nr 221)*

* * *

*Gdy dziś Polska, czując ciężki oddech kremlowskiego niedźwiedzia, garnie się pod skrzydła Paktu Atlantyckiego, NATO ustami Brytyjczyka, lorda Carringtona, powtarza swoją starą dewizę — że dla „tak zwanej całości Polski" Zachód nie będzie ryzykował dobrych stosunków z Rosją. Nigdy tego nie robił, w Jałcie rzucił Polaków z zimną krwią na talerz Stalina, a więc dlaczego teraz miałby zmieniać swą odwieczną politykę?*

*(Najwyższy Czas, nr 46* — **тыднёвік Уніі рэальнай палітыкі — партыі Януша Корвіна-Мікэ)**

* * *

*Mając na uwadze przypadki nagminnego łamania w polskich mediach poprawności językowej — dotyczy to również prezydenta RP — co jest przedmiotem kpinek nie tylko inteligentów, ale również i robotników, Kazimierz Dejmek zapowiedział, że zrobi wszystko co możliwe, aby wprowadzić do mediów publicznych kontrolę językową. Opowiedział się zdecydowanie przeciw amerykanizacji kultury.*

*(Rzeczpospolita, nr 263)*

**Пан прэзідэнт будзе пад кантролем цэнзуры! Канец свету!**

* * *

*Polacy zbroją się. W samej Warszawie i województwie stołecznym wydano od 1986 r. 40 tysięcy pozwoleń na broń. Zbroją się ci, którzy obawiają się sąsiadów. Zdarza się, że powodem starań o broń jest lęk przed współmałżonkiem. Polska zbroi się, jest to fakt niezaprzeczalny. Ale dlaczego? Czy z kałasznikowem w dłoni będziemy mogli szybciej wejść do Europy?*

*(Gazeta Współczesna, nr 218)*

**Безумоўна, так. Чалавека, які трымае „калашнікава" ў руках, можа ігнараваць толькі вар'ят.**

* * *

*Spotykamy się często z twierdzeniem, że Białorusini chcą ten kawałek Polski* (Беласточчыну — рэд.) *przyłączyć do Białorusi. Chyba nie o to chodzi... Żadna organizacja białoruska nie ma w swoim programie haseł typu rewindykacyjnego.*

*(Gazeta Współczesna, nr 121)*

**Гэту праўду ўпершыню ў польскай прэсе адкрыў прафесар Уладзіслаў Сэрчык, родам дзесьці з Кракаўскага ваяводства.**

* * *

*Armia holenderska przyjmuje w swoje szeregi także homoseksualistów. W reklamach gejowskich magazynów obiecuje się im specjalnie skrojone mundury i przypomina, że regulamin wojskowy nie zabrania noszenia długich włosów, kolczyków i innych ozdób. Aby oswoić rekrutów z kolegami homoseksualistami, Ministerstwo Obrony wydało specjalne broszury o treści: Homoseksualizm w wojsku to jest zupełnie normalne.*

*(Polityka, nr 46)*

**Можна сабе ўявіць, што будзе выраблялцца, калі батальён „геяў" завяе горад на чужой тэрыторыі.**

* * *

*Kiedy Białorusini zaczęli jednoczyć się i podnosić głowy, to w okolicach Bielska Podlaskiego ujawnili się nagle Ukraińcy.*

*(Polityka, nr 450)*

**Не было б украінцаў, былі б праваслаўныя палякі або яцвягі. Што за розніца, як называецца новая тутэйшая нацыя?**

* * *

*Pomyśl o jasnym piwie: cudownie przejrzystym, jasnobursztynowym. Wyobraź sobie tę chwilę, gdy otworzysz butelkę. Poczujesz delikatny, świeży aromat...*

*(Gazeta Współczesna, nr 222)*

***(рэклама)***

Проста — паэзія. У такім стылі пісалі калісьці лісты закаханыя. Цяпер кожны „жуль", заплаціўшы літаратару, патрабуе ад яго дыфірамбаў у гонар бутэлькі піва, кавалка мыла ці кансервы для сабак, якую выпускае акурат ягоная фабрычка.

* * *

*Od stycznia wzrosną ceny wody.*

*(Kurier Poranny, nr 228)*

**Але сенсацыя!!! У рэшце рэшт нешта падаражэе.**

# З мінулага тыдня

**Выказванне прэзідэнта Леха Валэнсы наконт нямецкай меншасці ў Польшчы выклікала збянтэжанасць сярод некаторых нямецкіх палітыкаў.** Лех Валэнса ў інтэрв'ю для газеты „Die Welt" сказаў: „Тады (г. зн. падчас падпісвання гранічнага трактата і пагаднення аб добрым суседстве — рэд.) гаварылі мы аб меншасцях, бо існавала жалезная заслона. На меншасць інакш глядзіцца ў залежнасці ад таго, ці існуе свабода падарожжаў, ці не. Таму мы гаварылі аб Учарашнім дні, а не аб Сённяшнім або Заўтрашнім. Калі граніцы адкрытыя, няма праблемаў з меншасцямі. Калі камусьці не падабаецца, тады той гаворыць: дзякую, выязджаю. Нямецкая меншасць адыгрывае сёння іншую ролю, чым у часах, калі існавала жалезная заслона". Дэпутаты Бундэстага лічаць, што прэзідэнт павінен высветліць, як трэба разумець ягоныя словы.

**Прэзідэнт Лех Валэнса прыняў прадстаўнікоў Парламенцкай групы нямецкай меншасці, у тым ліку яе старшыню Генрыка Кроля.** Падчас размовы прэзідэнт звярнуў увагу на асаблівую ролю нямецкай меншасці ў фармаванні супольнага вобразу развіцця Еўропы. Кроль адзначыў, што кантакты з прэзідэнтам, як і з апошнімі ўрадамі РП лічыць мадэльнымі. — Лягчэй нам знайсці спагаду ў Варшаве, чым у Боне — сказаў Кроль.

**Прэм'ер-міністр Вальдэмар Паўляк і віцэ-прэм'ер Марэк Бароўскі сустрэліся ў Варшаве з Джонам Бірклундам** — старшынёю Кантрольнай рады Польска-амерыканскага фонду прадпрымальнасці, які з'яўляецца самым вялікім замежным інвестарам у нашай краіне. Прэм'ер Паўляк каштоўнай палічыў ініцыятыву стварэння базы даных для людзей, якія шукаюць працу і папулярызацыі механізмаў функцыянавання уласнага малога прадпрыемства.

**Камісія літоўскіх гісторыкаў,** якая даследавала дзейнасць Арміі Краёвай на Віленшчыне, не бачыць перашкод у рэгістрацыі клуба АК у Вільні пры ўмове, што будзе ён весці харытатыўна-апякунчую дзейнасць — паведаміла „Наша газэта", орган Саюза палякаў у Літве. Камісія не супрацьставілася ўжыванню тэрміна Армія Краёва ў назве клуба, хаця раней былі прапановы назваць згуртаванне Клубам ветэранаў вайны. Гісторыкі палічылі няслушнымі абвінавачанні АК на Віленшчыне ў генацыдзе на літоўскім народзе. „Наша газэта" сумняваецца, ці высновы камісіі адобрыць літоўскае грамадства.

**Літоўскае консульства неўзабаве будзе адкрыта ў Сейнах.** Гэтая справа была адной з тэм размовы сувальскага ваяводы Цэзары Цеслюкоўскага з генеральным консулам Літвы ў Польшчы Шарунасам Адамавічусам. Стварэнне консульства ў Сейнах неабходнае з увагі на знаходжанне горада блізка граніцы і на штодзённае прабыванне соцень літоўцаў на тэрыторыі Сувальскага ваяводства.

**Кожны год у Беларусі не нараджаецца 94 тысячы дзяцей, якіх маці рашыліся на аборт** — паведаміла Міністэрства аховы здароўя рэспублікі. У сярэднім на адны роды прыпадае два аборты, прычым 9 працэнтаў складаюць аборты ў непаўналетніх маці. У мінулым годзе зафіксавана 91 аборт у дзяўчат ва ўзросце да 15 гадоў. Прыведзеныя даныя датычаць выключна грамадзянак Беларусі. Паслугамі мясцовых бальніц, у тым ліку і абортнымі працэдурамі могуць карыстацца і чужаземкі. Сёння гэта становіцца намнога прасцейшым таму, што ў дзяржаўных клініках штораз часцей стваранаюцца аддзяленні, якіх праца мае камерцыйны характар. У выпадку полек справы маюць больш складаны характар. У пачатку гэтага года ведамства выдала ўнутраную інструкцыю, якая забараняе прымаць з мэтай спынення цяжарнасці грамадзянак Польшчы.

**Пад канец лістапада ў Менску падаражэлі білеты на гарадскі транспарт з 20 на 50 рублёў.** Па прычыне высокіх цэн на паліва павысіць цэны білетаў намерваюцца ўлады ўсіх гарадоў. Усюды абмяжоўваецца таксама колькасць транспарту і закрываюцца некаторыя маршруты.

**Многія факты паказваюць на тое, што цераз Тарэспаль мела быць перапраўлена рэкордная партыя — каля 5 тон — гашышу.** У пачатку лістапада польскія мытнікі і пагранічнікі затрымалі кантэйнер з 2 тонамі гэтага наркотыку. Падобны кантэйнер затрымалі таксама беларускія мытнікі ў Брэсце.

# ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

- З кожнай сям'і па бутэльцы — але не дзеля п'янкі.
- Прывязіце нам беларускую песню — просіць Грыша Мароз.
- Размова сацыяліста з капіталістам.
- Сакрэтныя тайны ў справе беларускай культуры.



# ТЭЛЕФАКСАМ З МЕНСКА

## ДУРАЦЬ БРАТКУ-БЕЛАРУСА

Сенсацыйныя лічбы прывёў днямі на сесіі Вярхоўнага Савета Беларусі народны дэпутат Пётр Садоўскі, які, дарэчы, з'яўляецца яшчэ і паслом рэспублікі ў ФРГ. Згодна з паведамленнем парламентарыя-пасла, за апошнія два гады з Беларусі бясплатна вывезена ў Расею, Польшчу, Балгарыю, Італію каля 800 мільёнаў долараў ЗША. Пётр Садоўскі назваў і некалькі асноўных спосабаў экспарту валюты за мяжу. Напрыклад, грошы, выдзеленыя з дзяржаўнага фонду стабілізацыі на закупку тавараў першай неабходнасці і медыкаментаў, часта выкарыстоўваліся чыноўнікамі-прайдзісветамі на набыццё тавараў шырокага спажывання, апроч таго, вельмі часта бартэр з'яўляецца своеасаблівым таварным крэдытам — гэта значыць, замест адведзеных умовамі дагавору 45 дзён сустрэчны тавар прыходзіў на Беларусь праз год, або проста губляўся.

Ну, як тут не прыгадаць мінулы год, калі ў Расеі толькі пачыналася рэфармаванне эканомікі? Тады ўрад Беларусі, які баязліва ставіўся да „капіталізацыі" па-расейску, з задавальненнем адзначаў стабільнае становішча ў Беларусі, марудзячы з дэманапалізацыяй і народнай прыватызацыяй.

Сапраўды, смяецца той, хто смяецца апошнім.

## ПІНСКАЯ ШЛЯХТА

На Палессі створана Згуртаванне нашчадкаў знакамітай Пінскай шляхты. Новыя шляхціцы маюць намер адрадзіць традыцыі сваіх прашчураў, іх культуру і побыт. Між іншым, да верасня 1939 года на Піншчыне, Століншчыне жыло больш за 35 тысяч палешукоў, якія мелі шляхецкі тытул.

## У „ГОЛАСА РАДЗІМЫ" З'ЯВІЦЦА КАНКУРЭНТ

Як і многія грамадскія арганізацыі, Згуртаванне беларусаў свету „Бацькаўшчына" мае намер выдаваць уласны друкаваны орган.

Гэта будзе штотыднёвік з матэрыяламі на гістарычныя, навуковыя, палітычныя тэмы. Газета прызначана для беларускай дыяспары.

## ХТО СМЯЕЦЦА АПОШНІМ

Падобна да таго, што імідж Беларусі як самай квітнеючай рэспублікі былога СССР кануў у Лету. Мяркуйце самі, па інфармацыі статыстычнага камітэта СНД узровень цэнаў у гандлёвых установах Садружнасці за 9 месяцаў гэтага года вырас у 7 разоў. А ў Беларусі кошт на сельскагаспадарчую прадукцыю павысіўся ў 7,5—8,5 раза. Напярэдзе па гэтаму паказчыку толькі Туркменістан — там цэны скокнулі ў 11 разоў. А вось у Расеі — толькі ў 1,8 раза. Дарэчы, Расея аказалася адзінай дзяржавай СНД, дзе тэмпы росту спажывецкіх цэнаў і сярэдніх прыбыткаў на душу насельніцтва былі прыкладна аднолькавымі.

## ПОМСТА МАФІІ?

Скандальнае злачынства адбылося днямі ў Менску. Сярод белага дня літаральна ў пад'ездзе свайго дома невядомымі злачынцамі быў збіты народны дэпутат Беларусі Васіль Даўгалёў. На шчасце, сур'ёзных пашкоджанняў здароўю парламентарыя не нанесена. Аднак праваахоўныя органы ўзбудзілі крымінальную справу. Матывы злачынства пакуль нявысветлены. Мяркуецца, што бандыцкі напад на дэпутата напрамую звязаны з яго пасадай. Васіль Даўгалёў з'яўляецца намеснікам старшыні Кантрольнай палаты, якая займаецца барацьбой з карупцыяй і іншымі праявамі арганізаванай злачыннасці.

## ПАД ПАГРОЗАЙ — ДЗЕЦІ

Толькі семнаццаць працэнтаў маленькіх жыхароў беларускай сталіцы можна назваць абсалютна здаровымі. Да такога несуцяшальнага заключэння прыйшлі спецыялісты рэспубліканскага эндаэкалагічнага цэнтра, правёўшы медыка-экалагічнае абследаванне 500 дзяцей 10—12 гадоў і падлеткаў 15—17 гадоў, якія жывуць у двух экалагічна-кантрастных раёнах Менска — „чыстым" Зялёным Лузе і самым забруджаным — Заводскім.

Асаблівае занепакаенне медыкаў выклікаў той факт, што ў 2,4 працэнта маленькіх менчукоў выяўлены вузлы на шчытападобнай залозе — гэта лічыцца сімптомам перадракавага стану. У той жа час у забруджаным радыяцыяй Хойніцкім раёне такіх дзяцей 1,4 працэнта.

## БЕРАЖЫЦЕ СВЕТЛАФОРЫ!

Па ўсім відаць, колькасць дарожна-транспартных здарэнняў у Магілёве хутка ўзрастае. І вінаватымі ў гэтым будуць не вадзіцелі і пешаходы, а невядомыя злачынцы, якія „пранюхалі" аб наяўнасці ў светлафорах каштоўных металаў. Такім чынам, за кароткі тэрмін у двух раёнах горада было знішчана 16 сфетлафораў.

**МІКОЛА ДЗЯБЁЛА**

 

## МЫ ПРЫМЕМ УСІХ

У жыцці хутка ўсё праходзіць. Дабро прамінае, і бяда век не бывае. Усяму прыходзіць канец. Калісьці думаў я, што кінуць мне пісаць у „Ніву" пара. Чаму? Бо яна нейкай іншай стала. Не вясковая яна, як калісьці была, о не! Не для сялян яна стала, а нейкая больш культурная. Вядома, трэба быць і для школы, і ліцэя, і для горада. У горадзе цяпер большасць нашых жыве, у вёску ледзьве калі-некалі заглянуць, да бацькоў.

Калісьці „Ніву" ў кожную пятніцу чакалі як кагосьці найдаражэйшага. А вёска пастарэла. І няма каму дапамагчы. Паўтараю гэта я і за артыкулам Аляксандра Максімюка, пра што і гаварылася на з'ездзе карэспандэнтаў. Я гэты тэкст чытаў некалькі разоў. І тады я падумаў: няма чаго мне пісаць у „Ніву", бо і для каго гэта будзе? „Ніва" вёску пакінула, а для гарадскіх пісаць я не ўмею! Каго там можа зацікавіць, што ў нашым Беразове робіцца? Школьная моладзь даўно з „дзеравеншчынай" парвала. Усе пра вёску забудуць. Пройдзе пару дзесяткаў год, і мы апамятаемся. Будзем лямантаваць: прапала вёска, забыта культура, загінула мова. Некаторыя пра гэта і мараць!

Ведаеце, у мяне, аднак, ёсць надзея: нас тут зламаць і знішчыць, усё-такі, вельмі цяжка, хаця многія не ведаюць, хто яны, якая іх мова. А кім нас лічаць? Цяпер мы быццам беларусы, а тут да нас усё больш украінскіх калектываў ездзіць. Песні спяваюць, гумар даюць, гавораць па-ўкраінску. Нашы слухаюць і кажуць: нам усё роўна, што яны, мы ўсіх прымем, з адкрытаю душою, абы нам зла не рабілі. Яны нам прывозяць усмешку і радасць, а вось нашы дарогу да нас забылі!

**ГРЫША МАРОЗ**

**Ад рэдакцыі:** Паважаны спадар Грыша Мароз, Вы маеце рацыю, што за мала пішам пра вёску, але не маеце рацыі, калі пытаеце, хто будзе чытаць Вашы артыкулы. Усе мы, якія апынуліся ў горадзе, усё яшчэ жывем вясковымі праблемамі, таксама як гарадскімі і з прыемнасцю чытаем тое, што Вы пішаце. Пастараемся зрэшты больш увагі прысвяціць вясковым тэмам у нашай журналісцкай працы і падтрымаць такім чынам нашых карэспандэнтаў, якія сапраўды апошнім часам самі засталіся з гэтымі праблемамі.




### ЗМЯНШАЕЦЦА КОЛЬКАСЦЬ ЖЫХАРОЎ

У Нараўчанскай гміне на працягу дзесяці гадоў колькасць жыхароў зменшылася на 1240 чалавек. Найбольш у вёсках Семяноўка і Скупава. Гміна налічвае 35 вёсак і пасёлкаў, у якіх пражывае больш пяці тысяч чалавек. Найбольшыя вёскі ў ёй: Нараўка, Семяноўка, Старое Ляўкова.

У гміне пражывае дзве жанчыны, якім споўнілася сто гадоў. Адна з іх Еўдакія Шаршуновіч з Бярнацкага Моста, другая — Анастасія Клімюк з Плянты.

У Нараўчанскай гміне найбольш жыхароў працуе на ўласных гаспадарках, затым на фабрыцы чырвонай будаўнічай керамікі, у лесе, у пачатковых школах, у гміннай спулдзельні „Сялянская самадапамога", на поштах, у гміннай управе. Знайсці працу штораз цяжэй. Некаторыя адкрылі ўласныя крамы або паслуговыя майстэрні.

### БОЛЬШ ТЭЛЕФОНАЎ

Цяпер у кожнай салэцкай вёсцы — а іх 23 — у Нараўчанскай гміне ёсць тэлефоны. У 1992 годзе, дзякуючы актыўнай працы грамадскага камітэта тэлефанізацыі вёскі Заблоччына, яе жыхарам падключылі восем тэлефонаў. Ужо зараз тэлефоны маюць жыхары новага пасёлка тамашняга жыллёвага кааператыва на ўскраіне Нараўкі, па вуліцы Новай.

Ёсць гатовы тэхнічны праект ды іншая неабходная для гэтага мерапрыемства дакументацыя на наступныя 22 тэлефоны ў Плянце. Інвестыцыя будзе ажыццяўляцца супольна з зацікаўленай гэтай справай фірмай „Гольгаз". У вёсцы Плянта зараз тэлефонамі карыстаецца адзінаццаць сем'яў.

У Нараўчанскай гміне дзейнічаюць тры паштовыя ўстановы: у Нараўцы, Старым Ляўкове і ў Семяноўцы. Ад нядаўна тэлефоны прыдбалі сабе жыхары ў шматлікіх вёсках, між іншым, у Новым Ляўкове (14), у Старым Ляўкове (24), у Ляшуках (12), у Ахрымах (6), у Сушчым Барку (4), у Падляўкове (3) і ў Капітаншчыне (5).

Шмат тэлефонаў маюць жыхары Заблоччыны, Свінароў, Гушчэвіны, Стачка, Гарадзіска. У самой Нараўцы прыватных апаратаў каля васьмідзесяці.

**ЯНКА ЦЕЛУШЭЦКІ**

## НА РЫНКУ

-- Колькі бярэце за кілаграм яек? -- запытала пажылога селяніна прыгожа апранутая і размаляваная дама.

-- Дваццаць тысяч.

-- Задорага. Калі аддасце за пятнаццаць, вазьму.

-- Выгадуйце сама курку, дачакайце яйка, а потым убачыце, ці гэта танна, ці дорага.

-- А дзе ж мне яе гадаваць?! На балконе?!

-- Збудуйце свой дом, пастаўце куратнік. Я ў сваім жыцці збудаваў тры куратнікі, можаце і вы адзін паставіць.

Жанчына махнула рукой і пайшла.

-- Знерваваў мяне гэты вясковы хамула! -- паскардзілася знаёмай. -- Не буду сёння ўвогуле купляць яек. Ідзем, папытаем, колькі каштуе цэнтнер бульбы.

Усе сяляне хацелі за мяшок бульбы шэсцьдзесят тысяч, а адзін, каб не чакаць доўга пакупнікоў, прасіў пяцьдзесят.

-- Такая, відна, у яго і бульба, калі просіць толькі пяцьдзесят! -- махнула рукою жанчына.

-- Ты думаў, як спусціш пару тысяч, то так хутка купяць? -- засмяяўся сусед гаспадара. -- Дудкі! Сказаў бы: семдзесят, то хоць на спрабаванне хто можа б купіў, падумаў, што гэта за бульба такая...

Панюсі пайшлі далей. Да "рускіх".

-- Па колькі ў вас кансервы?

-- Па дваццаць тысяч.

-- Ну што вы кажаце?! За пятнаццаць куплю.

-- То можа хочаце ў падарунку? -- закпіла "руская".

-- А зрэшты... Ці варта ў вас купляць? Можа, якую заразу прывезлі? Кажуць, што ў вас там нейкая халера ці тыф ходзяць!

Злосныя гараджанкі пайшлі дадому з пустымі сумкамі.

**АЎРОРА**

## Дзень сеніёра ў Кляшчэлях

У нядзелю, 7 лістапада бягучага года ў асяродку культуры ў Кляшчэлях адбылося святкаванне Дня сеніёра (свята пажылых людзей). Мерапрыемства згуртавала больш за 60 пенсіянераў. Удзельнічалі ў ім між іншым старшыня Ваяводскага праўлення Саюза пенсіянераў і інвалідаў у Беластоку Уладзімір Корх і бургамістр горада і гміны Кляшчэлі Аляксандр Сяліцкі.

З багатай мастацкай праграмай выступіў вакальна-музычны ансамбль „Цаглінкі" са Старога Ляўкова (Нараўчанская гміна). На акардэоне віртуозна іграў Славамір Пакумейка з Гродна (Рэспубліка Беларусь), які вядзе ляўкоўскі хор. З прамовамі выступалі старшыня ваяводскай арганізацыі пенсіянераў У. Корх і бургамістр А. Сяліцкі. Першы з іх адказваў на пытанні пра павышэнне пенсій. Бургамістр расказаў пра будаўніцтва ў горадзе і гміне, а таксама пра інвестыцыйныя планы і культурнае жыццё ў Кляшчэлях і наваколлі. Прамоўцы пажадалі сеніёрам добрага здароўя і далейшых поспехаў у жыцці. Быў падняты тост.

У той халодны і дажджлівы асенні вечар доўга плылі песні і гукі неўтаймаванага гармоніка. Пажылыя людзі праявілі яго, успамінаючы свае маладыя гады і твары іх распраменьваліся, у супольным спеве ды на танцах. За падрыхтоўку вечарыны і мастацкую праграму, за фінансавую дапамогу спонсарам: асяродку грамадскай дапамогі, Спулдзельчаму банку і кіраўнічцы кляшчэлеўскай прыватнай крамы Мар'і Леанюк ды за сардэчныя пажаданні ад імя пенсіянераў падзякаваў Канстанцін Леанкевіч.

Варта адзначыць, што такія культурна-забаўляльныя мерапрыемствы для пенсіянераў у Кляшчэлях адбываюцца кожны год. Пра іх тут не забываюць...

**ЯНКА ЛЯЎКОЎСКІ**

## МОЖА, ПАГАЛАДАЕМ?

На пачатку лістапада ў студыі Польскага тэлебачання мы маглі паглядзець сустрэчу прадстаўнікоў улады, прафсаюзаў ОПЗЗ, „Салідарнасці", сялян, прамысловасці і бізнесу. Мы, сяляне, думалі, што пачуем нешта пра нашыя справы. Так, было некалькі сказаў, абы збыць. Вось мы і выбралі! Мы ўсё так па вёсках разважалі: „лявіца" нам дапаможа, Цімашэвіч паправіць становішча сялян. Абяцалі ўсе, калі трэба было нашы галасы! Цімашэвіч пайшоў так высока, што яму не ў галаве нашая вёска! Калі прадстаўнік сялян запытаўся, калі будуць прыняты мінімальныя цэны на сялянскія тавары, як улада вырашыць наплыў заграінічных прадуктаў і ці будуць нізкапрацэнтныя крэдыты для сялян, на гэтыя пытанні ніхто не адказаў. Гэтых спраў не кранулі. Новы прэм'ер найбольш затрымаўся над прадукцыяй легкавых машын, над справай бізнесу. А ён жа сам з сялян! Намякнуў толькі, што ва ўсёй Еўропе ёсць праблема са звышпрадукцыяй, такая бяда ва ўсіх сялян. І калі б, заявіў ён, не хапіла ў нас харчоў, замежнікі нам іх прышлюць, так як было ў дзевяностым годзе.

Уся „дэбата" ў тэлебачанні напамінала вясковую, толькі там не было жанчыны, якой трэба было б ісці каравам даваць. А зараз па сустрэчы не забылі пра сялян! Павысілі цану і на бензін, і на салярку, і то немала. Цяпер толькі хопіць паднясць цэны на ўгнаенні. І тады наша сельская гаспадарка ўпадзе. І будуць мець куды іншыя краіны даваць свае тавары, з голаду наша краіна не пампэ! А хто з гарачэйшых сялян зноў загне з якога даўжэйшага ў бок улады. Нават арганізавацца нам няма як, застрайкаваць ці галадоўку пачаць. Застрайкуеш, твая карова падохне з голаду. Галадаць табе жонка не дазволіць. Застаецца пляваць сабе ў бараду і чакаць. А чаго? Што хацелі, тое і маем.

Сядзім цяпер і думаем. А, можа, трэба было аддаць свой голас на людзей Корвіна-Мікэ? І ён абяцаў паніжэнне цэн на бензін і салярку? Так, так, перад выбарамі то нам шмат чаго абяцалі!..

**ГРЫША МАРОЗ**

## БУДЗЕМ БАГАТЫМІ І ШЧАСЛІВЫМІ

19 лістапада г.г. у сродках масавай інфармацыі паведамілі, што праз два дні будуць павышаны цэны спіртных напіткаў, а праз два тыдні папяросаў, газу, цёплай і халоднай вады, электрычнай энергіі. Пару днямі раней падаражэў бензін, а на мясныя прадукты цану павышалі кожны другі дзень.

20 лістапада ў суботу, так як пры старых добрых часах, людзі зранку з сумкамі, большымі чым заўжды, накіроўваліся ў спажывецкія крамы, дзе ўжо ад шостай гадзіны можна было купіць неабходныя для ўсякага святкавання цудоўныя напіткі. Пенсіянеры аж памаладзелі, успомнілі рамантыку чэргаў 80-х гадоў. І ў гэты раз яны першымі апынуліся ля прылаўкаў. 10 „жытняй", 15 „сталовай", 16 „мазавецкай" — гучэла ў краме. Гэтым разам хутчэй скончыліся грошы ў пакупнікоў, чым запасы тавараў у магазінах. У нядзелю можна было нават без чаргі атрымаць бутэльку „жытняй" толькі за 55 тысяч зл. У беластоцкіх „галях" кілаграм сала цанілі на 25 тыс., кумпяка — на 65 тыс. зл. Выглядае, што на Каляду трэба будзе заплаціць удвая больш. Міністры — сяляне — абяцалі сваім выбаршчыкам, што з-а мяжы не прывязуць ні кілаграма мяса, хаця там можна яго купіць напалову танней.

Згодна з тутэйшай традыцыяй, кожны ўрад пачынае сваю працу ад павышэння цэнаў г. зв. стратэгічных прадуктаў і заробкаў дзяржаўных ураднікаў. Паслы і сенатары задбалі пра сябе на першым пасяджэнні Высокіх Палатаў. „Сацыялістычныя" і „народныя" міністры абяцаюць, што ў новым годзе разбагацеюць настаўнікі і пенсіянеры. Настаўнікі ўжо ў студзені атрымаюць пабольшаную зарплату — аж на 200 тысяч злотых. Змогуць тады купіць за гэту суму 2 кілаграмы горшай каўбасы або 5 кілаграмаў свежага сала. Праваслаўныя будуць больш шчаслівымі, бо грошы атрымаюць перад сваімі Калядамі.

Год таму назад адзін з гайнаўскіх актывістаў на сустрэчы ў Музеі з беластоцкімі рэакцыйнымі беларусамі заявіў, што прымушаны быў прадаць акварыум, каб накарміць сям'ю; „Паланез" пакуль што пакінуў. Яго палітычныя сябры цяпер пры ўладзе і неўзабаве павышаць яму зарплату, ды тады ён зможа назад адкупіць свой акварыум разам з залатымі рыбкамі.

За пару месяцаў пачнуцца новыя выбарчыя змаганні. Гэтым разам за ўладу ў гмінах. Зноў густа зробіцца ад розных чарадзеяў, якія будуць гаварыць, што калі толькі яны апынуцца пры ўладзе, зробяць усіх нас маладымі, багатымі і шчаслівымі. Будуць і беларускія кандыдаты. Але ці варта на іх галасаваць? Мы адказваем — не! Наш мужык, нягледзячы на тое, ці ўжо стаў інжынерам, дацэнтам, шафёрам, ці далей астаўся земляробам, вельмі дрэнна адчувае сябе без пана. Каб быў ён поўнасцю шчаслівы, нейкі пан быць мусіць! Пан, які валодае выключна панскай мовай патрэбны нам, як вада ў акварыуме для залатой рыбкі. Не галасуйма тады на сваіх, бо яны ўсе такія самыя людзі, як мы.

Ці ж не меў рацыі палкоўнік у адстаўцы Кастусь Масальскі, які на апошнім пленуме ГП БГКТ сказаў: „Разбіяцкая дзейнасць журналістаў „Нівы" паўплывала на пройгрыш беларускіх кандыдатаў у парламенцкіх выбарах"? Пан палкоўнік „Ніву" не чытае, бо яна надта дарагая, каб мог яе купіць, але ад іншых ведае, што гэта рэакцыйны тыднёвік.

**ВАСІЛЬ КУРГАНОВІЧ**

# КАНЕЦ „СВАБОДЫ”

**Чуткі пра паступовую ліквідацыю Радыё „Вольная Еўропа” — Радыё „Свабода” хадзілі ўжо ад нейкага часу, тым не менш, на Брадвеі 1775 — у нью-йоркскім бюро радыё — ніхто не чакаў весткі, якая прыйшла напрыканцы кастрычніка: гэты аддзел зачыняецца зусім! Калі, як, шт? — нічога не было вядома. Журналісты рыхтавалі праграмы без ўпэўненасці, што выйдуць яны ў эфір.**

Радыё „Вызваленне” было створанае ў 1953 годзе, з мэтай перадаваць падняволеным у Савецкім Саюзе народам інфармацыю з краін дэмакратычнага блока. Радыё „Вольная Еўропа” ўжо тады працавала і было накіраванае на камуністычныя дзяржавы цэнтральнаўсходняй Еўропы, за „жалезнай заслонай”. Абедзьве ўстановы фінансаваліся ЦРУ. У канцы 50-х гадоў Радыё „Вызваленне” змяніла назву на Радыё „Свабода”. У 1972 годзе РВЕ-РС пераходзяць з-пад ЦРУ пад нагляд Кангрэса Злучаных Штатаў Амерыкі. Ствараецца тады кіраўнічы орган — Рада для міжнароднага радыёвяшчання (Board for International Information). Інфармацыя, высыланая ў эфір РВЕ-РС, не магла супярэчыць прынцыпам замежнай палітыкі ЗША.

Галоўнай сядзібай радыё з'яўляецца Мюнхен. У ЗША працуюць два аддзяленні — у Вашынгтоне і Нью-Йорку. Пасля „аксамітнай рэвалюцыі” 1989 года РВЕ-РС пачало адкрываць свае прадстаўніцтвы ва Усходняй Еўропе.

У гэтым годзе РВЕ-РС налічвала каля 1600 чалавек, амаль чвэрць якіх — гэта супрацоўнікі расейскай праграмы. Другой па велічыні рэдакцыяй з'яўляецца польская (125 чалавек), трэцяй — чэха-славацкая (каля 100).

У 1991 годзе РВЕ-РС было адным з больш сур'ёзных кандыдатаў на Нобелеўскую прэмію міру за ролю, якую адыграла ў развале камунізму ў Савецкім Саюзе і ягоных цэнтральнаеўрапейскіх сатэлітах. Але разам з гэтым паявіліся галасы, што паколькі РВЕ-РС дасягнула сваёй мэты — аджыло свой век.

Ужо прыняты канкрэтныя меры па змяненні структуры гэтага радыё (слова „ліквідацыя” наогул не ўжываецца). Да кастрычніка 1995 года колькасць працаўнікоў будзе скарочана да 705 чалавек, а гадавы бюджэт зменшыцца ўтрая — з 210 на 75 мільёнаў амерыканскіх долараў. На першы агонь гэтых „пераўтварэнняў” пайшло нью-йоркскае бюро (43 асобы), якое зачыняецца з канцом года. Гадавы выдаткі на яго ўтрыманне складаў 4 мільёны долараў і была гэта — паводле працаўніка беларускай службы Адама Акуліча — самая танная, прытым высокапрафесійная, праграма амерыканскага радыёвяшчання.

Па-рознаму складваецца сітуацыя ў паасобных нацыянальных рэдакцыях. Прыкладам, афганская служба з 15 чалавек спыніла працу 18 кастрычніка, венгерская служба ў Нью-Йорку — з канцом кастрычніка. Польская і чэшская рэдакцыі будуць працаваць з Новага года ў Варшаве і Празе ды будуць налічваць па... 15 чалавек. Невядома як вырашыцца лёс балгарскай, румынскай ды югаслаўскай рэдакцый.

* * *

Першая беларуская перадача Радыё „Вызваленне” выйшла ў эфір 20 мая 1954 года. Газета „Бацькаўшчына” (н-р 12-13 за 1954 г.) так пісала пра гэтую падзею: „Вольнага голасу з вольнага сьвету, праўдзівай інфармацыі аб падзеях у сьвеце з асьветленьнем нашага беларускага жыцьця, нашых праблемаў у роднай беларускай мове — беларускае грамадзтва як на чужыне, гэтак і на Бацькаўшчыне чакала даўно. Часіна гэтая нарэшце надыйшла. (...) Беларускія перадачы ў Радыё „Вызваленьне” — гэта наша першая штодзённая „газэта”, (якую — М. В.)... „чытаць” не перашкодзяць беларускаму народу нат бальшавіцкія тыраны”.

Важную ролю ў фармаванні аблічча беларускіх перадач адыграла і бюро ў Нью-Йорку, адкуль пастаянна ў эфір пачалі яны выходзіць у 1957 годзе — разам з пераездам у Амерыку Янкі Запрудніка. На дзень 31.10.1993 г. у Нью-Йорку былі падрыхтаваны 16401 перадача, у сярэднім па 4-10 мінут кожная. Дамінавала палітычная публіцыстыка, але шмат месца адводзілася культурнай, літаратурнай, рэлігійнай тэматыкам.

Роля Беларускай праграмы Радыё „Свабода” ў Нью-Йорку не зводзілася адно да рыхтавання перадач. Гэта быў таксама цэнтр, у якім гуртавалася беларуская інтэлігенцыя, воляй лёсу закінутая на амерыканскі кантынент. Праз бюро перайшлі вядомыя ў беларускім руху асобы: Антон Адамовіч, Наталля Арсеннева, Стась Станкевіч, Юрка Віцьбіч, Яніна Каханоўская, архіепіскап БАПЦ Васіль (Уладзімір Тамашчык), Вітаўт Тумаш, Вітаўт Кіпель, Язэп Менскі (брат Язэпа Пушчы), Анатоль Цярэшка ды іншыя. Сабраная была багатая бібліятэка, архіў — скрыпты, плёнкі, відэазапісы.

Адам Акуліч, які тут працуе апошнія 10 гадоў, на пытанне, што далей, адказаў: „Відаць трэба будзе заняцца бізнесам”.

**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**

<u>Ідэя Дамовай Беларусі</u>

# ПАЧЫНАЙМА АД СЯБЕ

Шмат хто з чытачоў „Нівы” мяюць да мяне жаль, што я апісваю беларускія праблемы ў смутных тонах. Нават Пазьняк заклікаў некалі, каб я ствараў прываблівыя вобразы нацыянальнай рэчаіснасці... Спрабаваў, але не магу! Трэба было б махляваць, дурыць людзям галовы аптымістычнымі байкамі.

Зрэшты, каму гэта адрасую тэксты? Пару тысячам прыхільнікаў „Нівы”, якіх няма патрэбы вяртаць у беларушчыну, бо ў сілу самога факту рэгулярнай выпіскі імі роднага часопіса яны ўжо патрыёты. Да тых жа, хто не чытае па-беларуску, натуральна, маё слова не даходзіць. Можа быць, і не чулі пра нейкага Яновіча...

Згодзен: трэба мабілізаваць свядомых беларусаў на барацьбу супроць знішчэння нацыі. Як тое рабіць? Ці па-акопнаму, крычучы: ура, наперад!? Ці, можа, лепей па-штабному, пачынаючы справу з аб'ектыўнай інфармацыі пра становішча (на вайне, спадары афіцэры, за дастаўку ілжывых дадзеных расстрэльваюць!).

Аптымізм, вера ў справу неабходны дзеянню, бы хлеб і паветра. Больш таго: медыкі заўважылі, што хворы, якому бракуе волі выздараўлення, паміраe. Няўжо гэта значыць, што мусім пакарыстацца яшчэ адной іх практыкай, а менавіта не гаварыць пацыенту пра сапраўдны стан ягонага здароўя?.. У выпадку шпітальнага лячэння, відаць, здае такое экзамен; людцы, пераважна, слабыя духам і толькі нешматлікім адзінкам лішняй ёсць штучная падтрымка ў гартунку характару.

У грамадскім жа побыце ўсё не так. Камуністы, абяцаючы немагчымае, закончылі свой палітычны быт катастрофаю. На дзіва, пайшлі іх следам салідарнікі ды іншыя збаўцы чалавецтва, гэтак жа праваліўшыся. І тыя, і тыя хацелі змяняць свет, замест зразумець яго і выпрацаваць рацыянальныя праграмы. Іхным намерам не хапала доктарскай зарыентаванасці ў сапраўдным стане народнага арганізму і разам з тым прымянялі тую лекарскую, ардынатарскую тэрапію, што ўсё ёсць няблага і штораз лепш. У грамадстве, аднак, гэта не выклікала тае волі хутка дасягнуць раю. А наадварот: калі ўсянютка так цудоўна ўдаецца, дык нашто намагацца? Даволі быць паслухмяным уладзе, бы Госпаду у нябёсах, і будзе добра!

Назва таму: пераконанасць у магічную моц добрасумленных намераў. Зараз споўніцца паўвеку як Беларускае грамадска-культурнае таварыства прысягаецца ўтвараць у горадзе Беластоку беларускую школу, такую сапраўдную, а не ўсяго з паказным прадметам роднай мовы. Чамусьці нікому не кінулася ў вочы, што, акрамя лічаных сем'яў, ніхто не адчувае тут патрэбы ні гаварыць па-беларуску дома, ані тым болей выхоўваць у тым духу дзяцей, таксама гэтыя ж актывісты БГКТ і журналісты. Для параўнання, палякі ў Гродне жадаюць польскамоўнага школьніцтва, дабіліся ўжо таго, і не пачуеш там, што тым самым зломяць яны кар'еру іхным сынам і дочкам, грамадзянам Рэспублікі Беларусь.

Колькі давялося наслухацца аб прычынах няўдач беларусаў Беласточчыны ў чарговых парламенцкіх выбарах! Сёлета, нарэшце, як бы ліквідавана шчасліва разнабой, арганізацыі рушыліся адзіным фронтам з Царквою, і да чаго дайшлі?! Без рызыкі на вялікую памылку можна сказаць, што прагаласавалі на іх галоўна чытачы „Нівы” і „Часопіса”, калі памятаць, што папулярнасць газетных выданняў перамноўваецца цераз чатыры як сярэдні статыстычны паказнік у мяркуемым уплыве друку на грамадскую думку (на адну дарослую радзіну не ідзе два, тры экзэмпляры таго ж выдання). Зачарняе мазгі кальку, што столькі людзей беларускай нацыянальнасці, колькі праваслаўнага веравызнання. От і няпраўда: заклікі айцоў пастаяць за кандыдатуры Беларускага Саюзу вернікі выслухалі пакорна, але канфесійна-нацыянальная аргументацыя мала іх усхвалявала або і зусім не. Як на іронію, заўсёды многа галасоў аддаюць яны на кандыдатаў у Сенат, знакаміта ведаючы, што не ў ім вырашаецца палітыка. Наш выбаршчык не ёсць тупіца, во гляньце. Але нам, прэтэндэнтам прадстаўляць ягоныя інтарэсы ў свеце, нязменна здаецца, што маем перад сабою жыццёвага прафана. Досыць таго нацыянальна асвяцідь і ажно беларускі клуб у Сойме, бы пяць даць! Тым часам палітыкаванне без мільярдаў грошай дзеля гэтага і гадоў сталай грамадскай работы, усё роўна што выпадковыя спевы фальклорнага хорыку пад сценамі оперы.

Перастаньма спадзявацца на кагосьці. Польскі куратар не выручыць нас у арганізаванні беларускай школы. Не прыжывем мы таго часу, пакуль наш дэпутат апыніцца ў Сойме, самі бяспечна чакаючы цуду, замест цяжка папрацаваць у гэтым напрамку. Усе нашы дзеці гурмою павырастаюць на палякаў, як у тых саветаў на расіякаў, калі ва ўласным жытле не створым — прыгожа кажучы — Дамовую Беларусь. Не пачынайма ад іншых, гэта бяссэнсава. За самога сябе трэба найперш брацца!

**САКРАТ ЯНОВІЧ**

# КАБ ЯНЫ ВЕДАЛІ, ШТО ДУМАЕ НАРОД БЕЛАРУСІ...

— Прададуць Кебіч, Шушкевіч і Пазняк Беларусь Польшчы!

— А чаму ж гэта?

— Гэта ж не беларусы, гэта ж каталікі. Ну, палякі!

Гародня, субота, 6 лістапада 1993 г., пасля абеду. Горад забеганых турыстаў, гандляроў і людзей шукаючых хлеба. На пляцы Тызенгаўза, раней У. Леніна, дзе і далей стаіць манумент, тлумок за дзвесце асоб. Крыху потым папоўніцца, як даедзе пару асоб з новага рынку. Сустрэча з дэпутатамі ўсіх узроўняў перад 9 лістапада, чарговай сесіяй Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

— Мне ўсё равно, мне бы только харашо плацілі, і я харашо жыла. Мне хоць бы француз, хоць бы кітаец ці немец, абы мы жылі харашо!

— Это мелкий пролетарий так рассуждает!

— ... а пачэму кажды народ хочэ быць самастаяцельным, га?..

— Это молодыя, всё віна молодых! Молодыя работаць не хочуць.

— Да, канечна! Правільна. Хоць я трапкаю два часа, але я, старая, работаю, зарабляю на хлеб. Все ходзяць без работы, за чый шчот маладзёж жывець?.. Ну ходзяць без работы.

— Мы ж за шчот маладзёжы жывемо!..

— ... В 39 году был только адзін міліцыянер і адзін председацель, і людзі жылі харашо, а сегонно іх сядзіць тры тысячы з палавінаю...

— ... Ээ? Вот па падвалах сядзяць, кураць, п'юць, это на мяне ані работаюць? Ха-ха-ха!

— ... Дачи побрали, катэджи понастраивали, эти коммунисты...

— Да вы не путайте, „коммунисты, коммунисты”! Ведь и среди них были хорошие люди. Ведь этих, о ком говорите, три процента! Ну, что вы понимаете?! Ну зачем сразу — „коммунисты”? Ведь всё это верхушка, понимаете...

— Да ж камуністы ў вярхах сідзяць.

— Да ведь и рабочие — коммунисты, и среднее звено... Ну, зачем вы так всех?!

— На халеру тое "звяно" патрэбнае!

— ... каб Сталін вярнуўся, то б скора тут парадак навёў!

— О, завтра будет здесь народа больше, чем сегодня.

— Ага, будуць плакаць па гэтым Леніне.

— ... вы что, вы на меня будете работать?! Нет!

— ... Ну, на воровстве жили!..

Усе хвалююцца зваротам Вярхоўнага Савета Беларусі, які ўчора пачулі ў тэлебачанні.

— На маю думку, у Беларусі адбыўся контррэвалюцыйны пераварот. Не здзіўлюся, калі пачнуць страляць у вас. Людзі, будзьце пільнымі: з улады вылазіць страшэнны Малох ваеннафашысцкай дыктатуры. Калі хто можа, едзьма 9 лістапада ў Менск, каб яны ведалі, што думае народ Беларусі, — пачынае вядучы сустрэчу.

Слухачы актыўна ўспрымаюць сказанае з „трыбуны” мармуровага пастамента, суседняга з тым вышэйшым, на якім Ленін выцягнутай рукой паказвае дарогу ў Будучыню.

Пачынае дэпутат абласнога савета Аляксей Пяткевіч голасам ціхім, але добра чутным:

☞ *Працяг на стар. 10*

БЕЛАВЕЖА
СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ № 407

*Уладзімір Саўчук з Беластока, як сам памятае, некалі друкаваўся быў у „Ніве". Будучы спачатку паэтам беларускай мовы, цяпер зноў да яе вяртаецца.*

*Змяшчаем два новыя яго творы, з рукапіснага, яшчэ польскамоўнага зборніка, з якім ласкава пазнаёміў ён нашу рэдакцыю.*

*УЛАДЗІМІР САЎЧУК*

**У ПЕРАДСОННЕ**

Даў абяцанне вярнуцца
таму забег на малую хвілю
бы вецер з цёмнага садка
што цягне перашэпты з восенню
праз усю доўгую ноч
каб у сне маім тупацелі думкі
ды падымаўся келіх мараў
да вуснаў расхіленых у бясслоўі
калі чую
як Госпад Бог паўтарае
пацер са мною

**СЁННЯ Я ЕДУ**

Блудны сын з мяне
абыякавы да літасці
пра якую ў хатняй кнізе
за іконаю павук начытаўся
пакінуў я гэты дом
як непатрэбшчыну ў кутку балагану
каб іншым было дзе кінуць грахі
і махнуў рукою на душу свету
а сёння вось еду назад
пакланіцца разваленым варотам
і той будыніне што згорбілася
на старасць
ды нейкаму карыцiску перад нябытам
гэта мой пройгрыш з часам
адзінае што засталося — усё жывая
цешча

**Пераклаў Сакрат Яновіч**

*ЙОСІФ БРОДСКІ*

## ВЕРШЫ ПРА ЗІМОВУЮ КАМПАНІЮ 1980 ГОДА

*Паўдзённай спёкай у даліне Дагестана...*
**М. Лермантаў**

**I.**

Хуткасць кулі пры нізкай тэмпературы
залежыць ад мішэні, якую наскрозь прашые,
ад яе імкнення сагрэцца ў мускулатуры
слабога цела і ў хітрых спляценнях шыі.
Камяні, як другое войска, ляжаць упавалку.
Цені ў суглінак цiснуцца міма ўласнае волі.
А неба сыплецца ў вочы — як пякучая вапна,
і самалёт нябачны падобны да гідкай молі.
І спружынай з распоратага трыбуха матраца
ўзнімаецца выбух! І гідлівая ад варонкі з лужай,
як малако на пліце, не можа кроў расцякацца —
і камянее скарынкай, апаленай чорнай стружкай...

**II.**

Пастух і Сейбіт з Поўначы гоніць статак
да мора, на Поўдзень, распаўсюджвае холад.
Ясны марозны дзень у далінах Чучмекістана.
Механічны слон задзірае хобат
перад чорнаю мышкай міны пад снегам,
горла рыгае снарадам, страхам і змерзлай
адзінай думкай, пазычанай у Магамета:
каб гару праклятую зрушыць з месца!
Снег ляжыць на вяршынях. З нябеснага склада
шчодра сыплецца сухі паёк на прыбытак.
Горы не рухаюцца — і без усялякага блата
аддаюць сваю нерухомасць трупам забітых.

**III.**

Сумныя, нудныя песні славяніна
у далінах Азіі. Мерзлая і гнілая,
азызлая чалавечая свініна
ляжыць на падлозе каравана-сарая.
Кізяк дыміць. Ад холаду ногі чорныя, як вуглі.
Смярдзіць анучамі, потам, забытай лазняй.
Сны аднолькавыя — як шынялі.
І больш казённых пабояў, чым успамінаў уласных,
а ў роце — ад частых „ура!" асадак...
Слава тым, на каго суседкі плявалі,
хто рабілі аборты ў шасцідзесятых
І Айчыну ад сораму ратавалі!

**IV.**

Што пачуеш ты ў гуле чмяля над вішняй?
А што ў гуле лятаючага апарата?..
Жыць зрабілася нават цяжэй — чым выжыць.
Цяжэй — чым будаваць бліндаж з лазы вінаграда.
Цяжэй, чым з мараў — хмарачосаў ансамблі.
Свет разлятаецца, як ветрам падзьмула:
сем'і, таемныя думкі, саклі...
Над руінамі чужога аула
ноч. Пад сябе спускае мазутам
нават жалеза. А месяц ад жаху,
што яго ўтопяць у боце разутым,
хаваецца ў хмару, як у чалму Алаха.

**V.**

Нічога няма, як на свята. Ніхто не марнуе паветра.
Прывезеная і кінутая, дзе можна,
ціша. І расце, быццам цеста ў дзежцы,
пустка. Калі б хоць на зорах існела
жыццё — прагучалі б апладысменты
і на сцэну пабег бы артылерыст плюгавы!
Забойства — наіўная форма смерці.
Таўталогія. Арыя папугая.
Справа тых, хто з-пад брыва наводзіць
ствол і, як муху, усіх забівае вокам,
справа моладзі, да каго кроў чужая даходзіць
толькі па чутках альбо па траханню цнотак.

**VI.**

Коўдру на лоб нацягні, пракапай у трусе матраца
яму — ляжы ды слухай выццё сірэны.
Новы паўзе ледавік — ледавік не з лёду, а з рабства.
Напаўзае на глобус — і пад яго марэны
ўжо лягаюць дзяржавы, ўспаміны і шлюшкі...
Нешта выдыхаючы, вылупаючы вочы з арбіты,
мы пераўтвараемся ў будучыя малюскі —
бо ніхто нас не чуе, быццам мы трылабіты!
З калідора скразняк. З квадратных вокнаў. Са свідравінаў.
Павярні выключальнік, скруціся клубком, небарача.
Пазванок — той шануе вечнасць. Пустыя твае валасіны...
А ранкам ты станеш ракам — і не падняцца з карачак.

**VII.**

У стратасферы ўсімі забытая сучка
брэша ў круглы ілюмінатар:
„Шарык, Шарык! Дзе ты?! Я — Жучка...".
А Шарык тут — і на ім экватар,
як апшыйнік. Палі, яры ды адхоны
беллем сваім паўтараюць завеі гулы.
Фарба сораму пайшла на сцягі і праклёны.
А ў замеценай падпавецці куры
гэтаксама дрыжаць, як народзец бязлікі,
і зносяць бязгрэшнага колеру яйкі.
Калі ёсць нешта чорнае — толькі літары,
як сляды ацалелага цудам зайкі...

1980 год

Пераклаў АЛЕСЬ ЧОБАТ

*САКРАТ ЯНОВІЧ*

## НЕЎДАЛОТА

Артуру ўсё не шанцавала. Можна сказаць: ад дзяцінства. Нават ад малентства. Бацькі, занятыя здабычаю, нанялі тады танную, прыдуркаватую, няньку яму. Хадзіла з Артурыкам у возіку ў недалёкі парк, дзе ўпадабаў яе такі самы, як яна, кавалер. Абое дадумаліся спойваць малога малаком з салодкім вермутам, ад чаго ён непрабудна спаў. Праз некаторы час Артурчык зрабіўся ненармальна віслівым. Маці з бацькам, абхадзіўшы з ім лекараў, урэшце даведаліся, што немаўля іх ужо алкаголік.

Клянучы амурную дэбілку, узялі прывезлі з вёскі на яе месца матчыну старую. Бабуся, удзічэлая ў вымерлай ваколіцы, нясціхана плакала ад упаткаўшага яе гарадскога раю перад смерцю. Лечаны Артурык лямантаваў разам з ёю; нельга было пусціць на шпацыр, на людскія вочы. З раніцы, калі і суседзі выходзілі на работу, у кватэрах навокал заставаліся адны сабакі. Яны браліся выць ад бабціных задаволеных прычытаў (пры гладкім зяцю дома, аднак, асцерагалася сярмяжная цешча даваць волю голасу сваёй душы). Унучак стамляўся ад гэткіх выбухаў шчасця ў няшчасці і неспакойна засынаў, смагліва аблізваючы язычком патрэсканыя губкі.

Лекаванне давала вынікі. Тым часам бяда перакінулася на недаўмекаватых суседзяў: не маглі зразумець, чаму хударэюць ім дагледжаныя сабачукі. Заказаны ветэрынар нічога не дашукаўся ў таемна патрывожаных брахуноў. У правінцыяльнай газеце з'явіўся затым артыкул пра невядомую хваробу ў хатніх жывёлаў. Публікацыя выклікала сенсацыю. Стварыла канавалу канцэпцыйную падставу адчыніць дактарат у слыннага прафесара. Не выйшла, аднак: бабка, аб чым ён не ведаў, ад'еўшыся ды адагрэўшыся ў пакаёвай цяплыні, благаславёна аціхла. Дактарант ні трохі не раскусіў, чаму цюцькам вярнуўся апетыт, хвасты зноў падняліся ім абаранкаю, мордачкі павесялелі.

Само дзяцінства Артура праходзіла, таксама, не менш злавесна. Да ўсяго кепскага даводзілі сябры. Аднойчы прынёс з крамы шапаткі пачак макаронаў маме, у якія нехта з іх засадзіў быў аглушаную мыш. Зверанё, акрыяўшы ў лакомлівай яму пастцы, колькі ночаў спажывала спадцішка далікатэс. Гэта выклікала ўражанне, што за ўваходнымі дзвярыма тоіцца начны злодзей з дрэнна падробленымі ключамі... Бацька, успомніўшы сваю вайсковую службу ў паветрана-дэсантнай брыгадзе, ці раз скрадваўся басанож у перадпакой, але на той момант усталёўвалася чуйная ціш.

Пакуль не здарылася тое, што павінна было, хоць неабавязкова ў святую нядзельку ды за абедам у кухні: мышка, узвычаеная дабрабытам, як і сямейным вэрхалам, выглянула была з распорыны ў кардонцы; аслепленая сонечным днём, вытрашчылася на ўтрупянелую мамцю! Тата паказаў сябе героем — шкодніцу даканаў эмалевым апалонікам, набіўшы пры гэтым пасуды (саксонскую вазу насілі склейваць да музейнага спецыяліста).

Пара, у якую выпусціліся ў Артурыка пухкія валосікі пад носам і выганяўся ён у кавалеры, пакінула ў ягонай псіхіцы незагойны шок; не набраўся рашучасці жаніцца. На заручынах у асабняку Юліты падалі яму ўрачыста раскаркаваць трохлітровую бутлягу французскага шампанскага маркі „Курваз'е". Стрэл з дымком і роспырскам накшталт напаўнітнага атрымаўся ніштаваты. Але, звалілася ад таго на прычоску Юлітકі цяжорная талерка з крыштальнай жырандолі. Дзяўчына ўмлела, закаціўшы бельмы. Надошлая цешча рынулася на паратунак дачцэ, напароўшыся грудзьмі на шпіль адмысловага графіна з марожаным джынам. Бацьку Артура цюкнула здагадка вярнуць прытомнасць будучай нявестцы тапельніцкім метадам вуснывусны, за што ляскатліва аплявушыў яго пачынаючы сват. На зняваггу мужа зрэагавала падобным чынам фасоністая ў той вечар маці. Брат Юліты, ужо аптыміст пасля разводу і чэмпіён чагосьці ў спорце, выпшпурнуў за парог перш Артурыка. Было гэтаму асілку крыху валтузні са старым, якому ўспомніліся спосабы барацьбы каратэ часоў дэсантнай школенасці (адзін і другі нацярпеліся было ў далікатных месцах цела).

Наеўшыся сораму, Артур тры дні не прыходзіў дамоў, засеўшы ў яшчэ нежанатага сябра.

Цяпер жа ён дырэктар гандлёвага павільёна „Нью-Йорк", што ў завулку Сарака Мучанікаў (пры камуністах — Чырвоная Дарога). Дубасіць замужнюю неўпапад прадаўшчыцу, якой, як і яму, не ўдалося жыццё.

ЗОРКА
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



*Людміла Рублеўская, Міра Лукша і Веранічка.* **Фота Віктара Шніпа**

# НОВЫЯ ПРЫГОДЫ МЫШКІ ПІК-ПІК

## МЫШКА ПІК-ПІК І СПРОБА РАЗБОЮ

Аднойчы Веранічка ўпрыгожвала свае лялькі. Колькі істужак самых розных колераў, з бліщчынкамі і без, колькі фартушкоў з фальбанамі і вышыўкай, толькі капелюшыкаў з кветкамі і стракатых спаднічак з карункамі мелі тыя лялькі! Мышка Пік-Пік доўга назірала з-пад шафы за Веранiччынай гульнёй, пасля не вытрымала і сама падышла да мадысткі.

-- Я таксама хачу прыгожа апрануцца!

-- Але ж мае лялькі збіраюцца на баль, -- сказала Веранічка, якой зусім не хацелася аддаваць мышцы чысценькія і далікатныя апранахі.

-- І я пайду на баль, -- упарцілася мышка. -- Што ты над гэтымі кавалкамі гумы завіхаешся -- яны ж нават "дзякуй" не скажуць! Мяне апрані!!

Давялося Веранічцы сапраўды прыбраць шэрую нахабніцу. Пік-Пік атрымала капялюш з шырокімі палямі, ружовую сукенку з мноствам ніжніх спаднічак і да таго вельмі пышную, карункавую накідку, абшытую белай істужкай. Пік-Пік была цалкам задаволеная. Выгляд шыкоўны!

-- Я цяпер не проста мышка, -- зрабіла выснову Пік-Пік, -- а пані мышка! Трэба пра гэта зараз жа ўсім паведаміць!

Пабегла Пік-Пік да Пепіты. Тая ляжала на канапе і драмала.

-- Паглядзі, Пепіта, якая я важная стала! -- адразу пачала хваліцца мышка. Пепіта зірнула на яе і прамармытала:

-- Ну і што?

-- Як гэта што?! Я цяпер не проста мышка, я пані Пік-Пік! І каб іначай мяне не называла!

Але Пепіта толькі пазяхнула і адвярнулася да сценкі.

Пабегла мышка на кухню да мамы. Але і тая ніяк не адрэагавала на з'яўленне ў кватэры новай "пані". Пакрыўджаная Пік-Пік пабегла да Максіма.

Максім сядзеў у ложачку і задумліва грыз гумавага баранчыка.

-- Паглядзі, Максік, хто да цябе прыйшоў! -- аб'явіла мышка.

Максім вельмі ўзрадаваўся, кінуў баранчыка і пачаў падскокваць на круглым задзіку:

-- Уга! Уга!

-- Я цяпер -- пані Пік-Пік! -- горда растлумачыла мышка.

-- Ага! Ага! -- згадзіўся Максім, цягнучы да мышкі ручкі.

-- Што, хочаш бліжэй на мяне паглядзець? -- здагадалася пані, і Максік пацвердзіў:

-- Ага! Ага!

Задаволеная створаным уражаннем, Пік-Пік ускараскалася на крэсла, адтуль -- на ложак:

-- Ну, вось, глядзі... Магу яшчэ бліжэй па... Ой!

Радасны Максімка схапіў новую цацку і пачаў яе даследаваць. Бедная пані толькі верашчала. А бессаромны разбойнік ужо садраў з яе карункавую накідку, скінуў капялюшык і тузаў ва ўсе бакі пышныя фальбаны сукенкі. Тут яго ўвагу прыцягнуў ружовы мышчын хвосцік. Максік схапіў яго і пацягнуў у рот. Пік-Пік з усёй моцы вырывалася, так што малы разбойнік ніяк не мог пацягнуць цікавую вяровачку да слінявага рота. Нарэшце, на верашчанне мышкі прыбегла мама.

-- Максім! Што ты за поскудзь у рот цягнеш? Кінь зараз жа!

Мама расціснула Максімкаў кулачок, і мышка вызвалілася. Абражаная, распранутая, кінулася небарака бегчы ў сваю норку. Ля шафы па-ранейшаму сядзела Веранічка і самаахдана гулялася з лялькамі. Пік-Пік паскардзілася ёй на абураючыя паводзіны брата.

-- Ён жа проста маленькі! -- супакоіла яе Веранічка. -- Ты яму вельмі спадабалася, а ён думае, што ўсё прыгожае можна пакаштаваць. Вось таму і схапіў цябе. На такіх малечаў крыўдаваць нельга! Сама вінаватая ты, Пік-Пік, што да яго залезла.

Мышка надзьмулася, але ўсё-такі супакоілася. Прычынай жа здарэння была яе, мышчына, выключная прыгажосць!

**ЛЮДМІЛА РУБЛЕЎСКАЯ**



### З вучнёўскай творчасці

**ЗІМА**

Прыйшла зіма, вялікі мароз
прынесла.
Свой плашч зняла, снегам сыпанула.
Птушкі адляцелі, есці захацелі.
Дзеці гуляюць, у снежкі іграюць.
Наша зіма -- вясёлая пара!

**МЫШКА**

Села мышка на парожку,
Спаці захацела трошкі.
На печ яна ўзлезла,
Ды на кошку налезла!
Кошка на мышку паглядзела,
Яе з'есці захацела!
Толькі мышка спраўненька
-- Гоп! -- пад печку хуценька!

**БЕАТА УТКІН,**
**школа ў Орлі**

## Вершы Віктара Шведа

**НА ЎРОКУ ГЕАГРАФІІ**

— Бачу пошук чарадзейскі
У цябе цяперака.
На паўвостраве Індыйскім
Шукаеш Амерыку?!

— Я іду Калумба следам, --
Быў адказ Валерыка. --
Індыю хацеў адведаць,
А адкрыў Амерыку!

**НЕ НАВУЧЫЎСЯ Я НІЧОГА**

Пасля заняткаў пытаюць Колю:
-- Чаго навучыўся ты сёння ў школе?
-- Англійскай мовай паразумецца
Можна заўсёды на цэлым свеце.

-- Лічым навуку тваю памылковай,
Не ўсюды ведаюць гэтую мову!
-- Патрактавалі мяне так строга --
Не навучыўся я анічога.

**ТРЭБА ПРАЎДУ ГАВАРЫЦЬ!**

Праўдай шчырай, як хлебам,
Трэба нам даражыць.
Праўду шчырую трэба
Заўсягды гаварыць.

-- Праўда лепшая, у суме, --
Сцвердзіў вучань Андрэй, --
Каб аб гэтым не думаць,
Гаварыў ужо раней.

**УЖО ЗАПОЗНА**

Бацькі на допыт узялі
Маленькага сынка Ігната:
-- Ці будзеш цешыцца, калі
Дамо сястрычку або брата?

На гэтае малы сынок
Ім адказаў зусім сур'ёзна:
— Навошта робіце намёк,
Калі вядома, што ўжо позна?

**АДКУЛЬ МОГ ВЕДАЦЬ?**

-- Ці чытаў ты, Яраслаў, --
Спыталася Алеся, --
Што на настаўніка напаў
Мядзведзь у нашым лесе?

-- Шмат маю засцярог
Да вестак у газетах.
Адкуль ён ведаць мог,
Што настаўнік гэта?

**ДАЮ ДОБРЫ ПРЫКЛАД**

У святочны ранак мама
Пераконвае Адама:
-- Твой найлепшы друг Сцяпан --
Непапраўны хуліган!

Хуліганіць ўсё няспынна,
Ты дружыць з ім не павінен!
— Мой саюз жа з ім нязвыклы:
Даю сябру добры прыклад!

 

# ПАДАРОЖЖА ПА МОВАЗНАВІІ

## 4

*(Працяг з папярэдняга нумара)*

### Хто ён?

*Літары ён, як байцоў на парад,*
*Строгім парадкам паставіў у рад.*
*Усе яны пэўнае месца знайшлі там.*
*Як мы яго назавем? — ...*

### Алфавіт

Для гэтай гульні патрэбны кардонныя карткі з літарамі. Вузейшая частка карткі — „хвосцік" — загінаецца ўверх пад прамым вуглом: так зручней яе браць.

Карткі ў адвольным парадку раскладваюцца на стале — літарамі ўніз, „хвосцікамі" дагары. Удзельнікі па чарзе выходзяць да стала, бяруць картку, называюць напісаную на ёй літару — і адразу ж наступную за ёю ў алфавіце (або, па дамоўленасці, дзве-тры наступныя). Калі пападзецца **я**, трэба сказаць: наступных няма, апошняя — і назваць першую літару алфавіта.

Скарыстаныя карткі часова адкладваюцца, а потым зноў змешваюцца з астатнімі. Гульня ідзе хутка, карткі бяруцца без выбару. Правільны і хуткі адказ — ачко за кожную літару; адказ з замінкай — паўачка; памылка — нуль. Для хуткасці падліку вынікаў ачкі-фішкі лепш зрабіць каляровымі, напрыклад, чырвоная — ачко, жоўтая — паўачка; можна зрабіць і фішкі рознай формы: кружок — ачко, палова — паўачка.

*Варыянты:*

1. Вядучы трымае стос картак, чарговы ўдзельнік бярэ верхнюю, скарыстаныя кладзе пад ніз. Адказаў, атрымаў фішку — і можаш зноў стаць у чаргу; памыліўся — выбыў. Тэмп вельмі хуткі.

2. У адрозненне ад папярэдняга, за памылку даецца чорная фішка — гэта значыць, што пры падліку ачко здымаецца. Але ёсць затое магчымасць удзельнічаць у гульні далей і, пазбавіўшыся ад памылкі, павялічыць колькасць набраных ачкоў.

3. Называюць літару і вымаўляюць гук.

4. Літару паказвае вядучы, удзельнікі моўчкі запісваюць яе і наступныя (аб колькасці дамаўляюцца загадзя). Пасля аднаго або некалькіх тураў лісткі здаюцца на праверку.

Ва ўсіх варыянтах фішкі раздаюцца да пачатку гульні, у часе правядзення або праверкі — гэта залежыць ад варыянта.

### Вялікія і малыя

Конкурс: хто хутчэй напіша дзесяць вялікіх і дзесяць малых адпаведных літар — суцэльным радком, захоўваючы правільнасць напісання і злучэння літар. Заканчваецца запіс імем і прозвішчам удзельніка конкурсу. З якой літары пачаць? Па дамоўленасці: з першай — з А, або з той, якую выцягне вядучы. Для гэтага бяруцца першыя пятнаццаць літар з разразной азбукі або не ў алфавітным парадку — па вольнаму выбару пішучага.

За кожную правільна напісаную літару, у тым ліку і ў подпісе, — ачко; за памылку, неахайнасць ачко здымаецца.

### Падарожжа па рацэ

Для падарожжа па незвычайнай рацэ, якая называецца Азбука, трэба падрыхтаваць палоскі паперы. Іх можна нарэзаць з двайных лістоў са сшытка ў клетку: сшытак парэзаць упоперак на чатыры або пяць частак. Зверху ўніз пасярод кожнай палоскі пішуцца літары беларускай азбукі — гэта і ёсць "рэчышча" нашай "ракі". Каб "праплысці" па ёй ад пачатку да канца было цікава, трэба добра "разгледзець" яе "берагі": "рака" — з адзіночных літар (яны ў цэнтры напісанага слова), кожны "бераг" — з дзвюх, а ўсе разам — словы з пяці літар:

*трАса*
*куБак*
*дыВан*
*ваГон*

і г.д. Старт даецца адначасова ўсім. Хто хутчэй даплыве да вусця "ракі"?

*Варыянты:*

1. Алфавіт папярэдне не запісваецца — "рака" і "берагі" адразу злучаюцца ў патрэбнае па парадку слова.

2. Запісваецца алфавіт, а далей парадак запісаў адвольны — спачатку запісваюцца словы, якія "бліжэй ляжаць" у памяці; затым можна вярнуцца да прапушчаных літар і падабраць адпаведныя словы.

3. „Падарожжа" па алфавіту адбываецца па-памяці, мэта — уставіць у схему-слова магчымыя літары ў алфавітным парадку, напрыклад: *су? — суд, сук, сум, суп, суш.* Каб увайсці ў лік пераможцаў, трэба не толькі добра ведаць алфавіт, але і валодаць добрым запасам слоў. Вось для такога конкурсу дзве схемы: *ба?, ??йка.* Рашыце гэтыя задачы — і самі прыдумайце іншыя.

*(Працяг у наступным нумары)*

# ЛАГАГРЫФ

1. пякучая лячэбная расліна, 2. прылада, якой забіваюць напр. цвікі, 3. жыхарка мурашніка, 4. белы грыб або праўдзівак, 5. між лютым і красавіком, 6. усё на сваім месцы, 7. пеючая птушка.

Вылучаныя літары складуць назву вясельнага пірага. Адказаў чакаем два тыдні.

# ЛІЧЫЛКІ

Анцы, цванцы,
Трынчы, рычы,
Эны, бэны,
Мэны, вэк!

* * *

Із падпечка
Тры дашчэчкі
Хлоп!

* * *

Каціліся яблычка па агароду
І упала проста ў воду.
Бульк!

* * *

Ішла кошка па раялі,
Наступіла на педалі
І запела: — До, рэ, мі,
Фа, соль, ля, сі,
Што украла — прынясі.
— Я украла каўбасу,
Заўтра рана прынясу.

* * *

Ляцела зязюлька міма саду,
Наплявала на расаду
І крычала: — Ку-ку, мак,
Прынімай адзін кулак.

* * *

Ішла зязюлька міма сеці,
А за ёй пішчалі дзеці.
Кук-мак, кук-мак,
Выбірай адзін кулак.
Ку-ку, ку-ку,
Прынімай адну руку.

* * *

Выйшла курыца з-пад сеці,
А за ёю — злыя дзеці.
Кох-кох, адзін здох.

* * *

Ішла кошка па раялі,
Наступіла на педалі
І ад болю закрычала:
— Мяў!

* * *

Каціліся торба
З высокага горба.
А ў той торбе
Хлеб, пшаніца.
З кім жадаеш
Ты дзяліцца?

* * *

Ляцеў воран
У трубу чорну.
Дым валіць —
Табе жмурыць.

# СНЕЖАНЬ...

Снежань — апошні месяц года, які „зямлю грудзіць, хаты студзіць, год канчае, зіму пачынае". У беларускай, польскай і украінскай мовах самі назвы сведчаць пра характар гэтага месяца: „снежань", „grudzień", „грудень". Па ім, як пераканаы былі ў народзе, раўняліся вясна і лета. Будзе снежань сухі — і яны будуць сухія, а выдасца цёплы, дык і лета такое ж: „У снежні адкрытае вуха — летам горача і суха". Правяралі і ўрадлівасць наступнага лета: „У снежні мароз і снег вышай хаты — год будзе багаты". Разважалі: калі 1 снежня пагодна — пагодна і ранняя будзе вясна; які дзень 2 снежня — такое надвор'е чакаецца ў сенакос; якое 3 снежня — такім надвор'е будзе ў жніво.

<u>З гісторыі Беларусі</u>

# ВІКІНГІ

Варагі (вікінгі, нарманы) — старажытныя назвы скандынаваў, удзельнікаў паходаў у IX-XI стагоддзях (на Русі іх называлі варагамі, у Заходняй Еўропе — нарманамі, у Скандынавіі — вікінгамі). У паходах на Русь у асноўным удзельнічалі шведы, якія ішлі праз Фінскі заліў, Ладажскае возера, шэраг дробных рэчак, азёр і праз волакі выходзілі на Волгу і спускаліся да Каспійскага мора (дзве галіны шляхоў з варагаў у грэкі). Варагі бывалі ў Ладазе, Ноўгарадзе, Полацку, Смаленску, Чарнігаве, Кіеве і іншых месцах. Займаліся гандлем, служылі ў дружынах князёў.

У старажытнарускіх крыніцах варагі ўпершыню згадваюцца ў „Аповесці мінулых гадоў", дзе летапісец пачынае гісторыю Русі з запрашэння варагаў. На падставе гэтага падання ў XVIII стагоддзі ўзнікла тэорыя паходжання Русі, якая прыпісвае варагам ролю стваральнікаў дзяржавы. Старажытнарускія летапісы (Лаўрэнцьеўскі, Іпацьеўскі, Ніканаўскі) і скандынаўскія сагі (Эймундава сага, Сага аб Ціднрыку Бернскім) сведчаць аб палітычных і эканамічных кантактах дзяржаў скандынаўскага рэгіёна са славянскай зямлёй.

На тэрыторыі Беларусі скандынаўскія знаходкі прадстаўлены ўпрыгажэннямі, зброяй, манетамі і косткамі жывёл з нанесенымі на іх рунічнымі знакамі і надпісамі. Яны сканцэнтраваны ў асноўным уздоўж Заходняй Дзвіны і Дняпра, сустракаюцца таксама на Гродзеншчыне. У Полацку, Лукомлі, Віцебску і на гарадзішчы Маскавічы Браслаўскага раёна знойдзены жалезныя ланцэтападобныя наканечнікі стрэл, у Слоніме — шалом, у курганах магілёўскага Падняпроўя (Лудчыцы і Калодзезная) — падвескі з выявамі вікінгаў, у Ваўкавыску — дзве срэбныя антрапамарфічныя (з выявай чалавека) падвескі і наканечнік кап'я, інкруставаны срэбрам, у Гродне, Полацку і каля Лукомля — мячы. На гарадзішчы Маскавічы знойдзены падкованападобная фібула са звярынымі галоўкамі, раўнаплечая фібула, шыракалопасныя крыжыкі, падвескакачачка. Рунічныя (скандынаўскія) надпісы знойдзены на сотнях абломкаў костак жывёл на маскавіцкім гарадзішчы і на гульняльнай костцы ў Полацку. Нумізматычныя скандынаўскія знаходкі прадстаўлены ў полацкім скарбе з Верхняга замка, у двух скарбах каля вёскі Стражавічы Чашніцкага раёна і скарбе каля вёскі Новы Двор паблізу Менска.

ЛЮДМІЛА ДУЧЫЦ

<u>БЕЛАРУСКІЯ НАРОДНЫЯ ГУЛЬНІ</u>

# СЛЯПЕЦ

Аднаму з дзяцей завязваюць вочы. Гэта сляпец. Усе бегаюць вакол сляпца, а ён стараецца каго-небудзь злавіць. Калі сляпец ідзе на сцяну, стол або іншы прадмет, яму крычаць:

— Гарыць, гарыць!

Калі сляпец зловіць каго-небудзь, той становіцца на яго месца. І гульня працягваецца.

# АДГАДАНКА

*Хто знойдзе найбольш адрозненняў на гэтых летніх малюнках?*



 

# НЕРАЗУМНЫ БАГАЧ

**(26-я нядзеля — 5-га снежня)**

Згодна ўстаноўленаму парадку нядзельных чытанняў, у гэтую, 26-ю нядзелю пасля Пяцідзесятніцы прыпадае ўрывак з 12-га раздзела Евангелля паводле Лукі. Прыводзіцца ў ім прытчу пра безразважнага багача.

Пытанне адносін да зямнога багацця закранаецца ў Евангеллі шмат разоў; у апавяданні пра багатага юнака, у прытчы пра багача і Лазара і ў некалькіх іншых месцах. Гэта адзін з тых вечнатрывалых сюжэтаў, які аднолькава актуальна гучыць і ў наш час. З усёй Евангельскай навукі вынікае адна вядучая думка, дзеля якой гэтулькі разоў закранался справа зямных і духоўных каштоўнасцяў. Хрыстос адкрыў чалавеку сапраўдную вартасць ягонай, несмяротнай душы, з якой нішто не можа раўняцца. Дзеля дасягнення чысціні душы, ейнага збаўлення, чалавек павінен пагадзіцца на любыя адрачэнні і ахвяры. Евангелле пераконвала чалавека, каб паміж рознымі вартасцямі зрабіць адпаведны выбар; аддаць перавагу душы. Жыццё чалавека не залежыць ад маёмасці. Не залежыць ад яе нават звычайна разуметае шчасце. „Якая карысць чалавеку, калі прыдбае ўвесь свет, а душы сваёй пашкодзіць?" Якраз спакушэнне багаццем і зняволенне ім з уронам для духоўных каштоўнасцяў з'яўляецца той трагічнай памылкай, парушэннем уласцівых прапорцыяў, перад якім перасцерагае Евангелле.

На прыкладзе безразважнага багача асуджаецца адначасова празмерная прывязанасць да багацця і празмерныя спадзяванні, ускладваныя на яго. „Шмат дабра маю складзенага на многія гады, — кажа евангельскі багач, — буду цяпер адпачываць, есць, піць, весяліцца". Ён забыўся, што ў сапраўднасці не ён валодае сваім багаццем. Яно было яму дадзена і ў любы час можа быць аднята. Чалавек не з'яўляецца ўласнікам, а толькі арандатарам. Сапраўдным уласнікам усялякага дабра, бачнага і нябачнага, з'яўляецца толькі Бог. Ён даручае і дазваляе карыстацца нам часткай свайго багацця, аднак вымагае, каб распараджаліся мы ім разумна, згодна Ягонай волі. Вось таму і было сказана багачу, які Божае палічыў сваім: „У гэтую ноч душу тваю возьмуць у цябе, і каму застанецца тое, што Ты прыдбаў". Нават жыццё, галоўная каштоўнасць дадзена чалавеку нібыта ў арэнду. Арандатар можа карыстацца ім, аднак непазбежна прыходзіць час, калі ўсё трэба вярнуць уласніку, здаўшы прытым справаздачу са свае дзейнасці.

Евангельскі багач паступіў гэтак неразважна, як паступае неразважная большасць людзей. Іхныя імкненні, мары і амбіцыі кruцяцца найчасцей вакол матэрыяльных вартасцяў. Мала хто турбуецца тым, як пазбыцца дрэнных прывычак, як стацца больш высакародным. Затое ахвотна мараць пра вялікі выйгрыш, спадчыну, пра вялікія грошы. Нават нічога яшчэ не маючы, чалавек думкамі выбягае наперад: як тады зажыў бы, чаго толькі не купіў бы, дзе толькі не быў бы... Тым часам атрымоўваецца, што не заўсёды добрае тое, што нам здаецца добрым... Білі Грэм расказвае ў сваёй кніжцы „Мір з Богам" пра такі вось выпадак. У 1923 годзе ў Чыкага сабраліся восем буйных бізнесменаў. Яны, разам узятыя, валодалі большым капіталам, чымсьці казначэйства Злучаных Штатаў. Гісторыя іхнага поспеху была вядомая кожнаму школьніку. Яны былі прыкладам для іншых, натхнялі і выклікалі зайздрасць. Аднак тады, калі ў Чыкага яны абмяркоўвалі сваю эканамічную экспансію на цэлыя дзесяцігоддзі, сапраўднага выніку не маглі прадбачыць. Чарлз Шваб, прэзідэнт сталеліцейнай кампаніі папаў у даўгі і памёр жабраком; Артур Катэн, буйны спекулянт збожжам, абанкруціўся і памёр за граніцай; Рычард Уытнэй, прэзідэнт нью-йоркскай біржы быў пасаджаны ў дзяржаўную турму Сынг-Сынг; Альберт Поўль, член кабінета, быў памілаваны, каб памерці ў сваёй хаце; Джэсі Лівэрмур, званы „львом" Уол-Стрыту, Лэо Фрэйзер, прэзідэнт Міжнароднага банка і Айвэн Крэйгер, кіраўнік вялізнага канцэрна — пакончылі жыццё самагубствам. Усе яны мелі грошы, уладу і славу; былі інтэлігентнымі і адукаванымі, аднак усе паступілі як евангельскі багач і ў гэтым заключалася іхняя трагедыя. „Дзе скарб іх, там былі і сэрцы іхныя".

Выснова з нядзельнага Евангелля ясная: трэба больш пакорлівасці, больш памяркоўнасці і разважнасці. Ведаючы адвечную наіўнасць і памылковыя імкненні чалавека, апостал Павел слушна папярэджваў: „Не гаварыце: заўтра зраблю тое, а праз год іншае, але: калі Бог дазволіць, магчыма, зраблю сёе-тое". Мы можам рабіць, мы хочам, але неабавязкова гэта будзе добрым. Можам планаваць што хочам, аднак чым гэта кончыцца — ведае толькі Бог. Як кажа блажэнны Аўгусцін — „сапраўднае шчасце чалавека ў тым, каб мець тое, што любіць, аднак пры ўмове, што любіць тое, што годнае любові".

**а. КАНСТАНЦІН БАНДАРУК**

# МОЛАДЗЬ У ЦАРКВЕ

У днях 13—14 лістапада 1993 г. адбылася чарговая Галоўная асамблея Брацтва праваслаўнай моладзі ў Польшчы. На гэты раз моладзь з амаль усіх праваслаўных асяроддзяў Беласточчыны і з некаторых іншых частак Польшчы гасцявала ў прыходзе Святога Міхала ў Бельску, настаяцелем якога з'яўляецца а. Лявонцій Тафілюк, духоўны апякун Брацтва.

Брацтва праваслаўнай моладзі ў Польшчы існуе ўжо амаль 15 гадоў. Пачаткі арганізацыі былі скромныя. З часам арганізацыя разраслася да ўсяпольскага абсягу, а яе членамі стала ў большасці моладзь, нязвязаная з духоўнымі школамі (як было ў пачатках). Фактычна, асноваю актыўнасці Брацтва з'яўляецца цяпер моладзь з Беласточчыны. Гэтая сітуацыя поўнасцю адлюстравалася ў Бельску. На з'ездзе былі лічаныя адзінкі з-па-за Беласточчыны.

Мабілізуючым фактарам для працы асамблеі была прамова Уладыкі Савы, якая запачаткавала першы рабочы дзень. Звяртаючы ўвагу на ролю Брацтва ў жыцці Царквы, Уладыка запрапанаваў, каб асамблея выпрацавала дакумент, накіраваны Сіноду епіскапаў у Польшчы з заўвагамі і прапановамі наконт жыцця Царквы і моладзі ў ёй.

Праца ўдзельнікаў асамблеі ў суботу галоўным чынам канцэнтравалася ў тэматычных групах, прысвечаных м. інш. галоўным акцэнтам у дзейнасці Брацтва, замежным кантактам, справай „летняй акцыі" ды майскаму паломніцтву на Св. Гару Грабарку. Пры падсумаванні праў груп некалькі разоў было выказаны погляд, што Брацтву патрэбнае аднаўленне метадаў і формаў дзейнасці з равеснікамі і малодшым пакаленнем, паколькі тое, што было добрым дзесяць гадоў таму назад, не мусіць цяпер быць абавязваючым. Гэта тычыцца м. інш. формаў працы з моладдзю ў прыходах, праграмы майскага паломніцтва на Грабарку. Гаварылася, што для гэтага апошняга мерапрыемства, якое пайшло цяпер у непажаданы бок, патрэбная альтэрнатыва накшталт фестывалю праваслаўнай моладзі. Шмат гаварылася таксама пра патрэбу нармальных адносін настаяцеляў да праяваў дзейнасці моладзі ў прыходах. Не знайшоў, на жаль, поўнага зразумення погляд, выказаны адным з удзельнікаў, што ў варунках Беласточчыны Брацтва з'яўляецца таксама нацыянальным фактарам, паколькі большасць яго членаў тут — гэта беларусы з роду. Нацыя, як і яе мова, асвечаны Богам. Эліта Брацтва павінна тое ўсведамляць і браць пад увагу пры выданнях, арганізаваных мерапрыемствах і г.д. Праца Галоўнай асамблеі закончылася ў нядзелю, калі пасля Святой Літургіі быў намечаны праект дакумента да Сіноду епіскапаў.

**М. С.**

# СВЯТАЯ ВЯЛІКАМУЧАНІЦА КАЦЯРЫНА

Святая Кацярына выводзілася з Александрыі і належала да грэчаскага княжацкага роду. Вызначалася надзвычайнай красой і мудрасцю. Атрымала ўсебаковую адукацыю, між іншым у галіне грэчаскай і рымскай літаратуры, філасофіі і медыцыны. З Хрыстовай верою пазнаёмілася, дзякуючы аднаму манаху-пустэльніку, які быў духоўнікам яе маці, падпольнай хрысціянкі. Аднойчы Святая Кацярына мела цудоўную візію — ёй аб'явіўся сам Хрыстос і назваў яе Сваёй Нявестай. Пасля гэтага здарэння сваё жыццё поўнасцю прысвеціла яна хрысціянскай веры, вывучаючы і прапаведуючы яе. Адбывалася гэта ў час гоненняў хрысціян пры імператары Максіміяне ў пачатку IV стагоддзя.



Падчас прабывання імператара ў Александрыі, у горадзе праходзіла паўсюднае ахвярапрынашэнне язычніцкім бажкам. Менавіта тады Святая Кацярына з'явілася перад абліччам Максіміяна і ўказала на фальшывасць паганскай рэлігіі і на смяротную небяспеку, якую язычніцтва нясе для людскіх душаў. Яна прызналася, што верыць у Хрыста і запрапанавала імператару, каб і ён пазнаёміўся з хрысціянствам. Імператар, захоплены прыгажосцю Кацярыны, але адначасна не намерваючыся прыняць хрысціянства, пажадаў, каб яна паклонілася язычніцкім ідалам. Калі яго намаганні і старанні выкліканых філасофаў не далі вынікаў, імператар абяцаў аддаць ёй палову імперыі. Святая Кацярына заявіла, што лепшым лічыць пакутніцкае адзенне, чым імператарскае паганскае ўбранне. Тады Максіміян прыгаварыў яе да пакутніцкай смерці. Святую спачатку доўга сцябалі батагамі, потым спрабавалі разарваць яе цела пры дапамозе адмыслова падрыхтаваных колаў (менавіта таму, асабліва на грэчаскіх іконах, пры постаці Св. Кацярыны часта віднее кола). Урэшце пакутніцы адсеклі галаву мячом.

Усхваляваныя прыкладам пакутніцкай смерці жонка імператара Аўгуста, адзін з ягоных палкаводцаў Парфірый Страцілат і дзвесце воінаў паверылі ў Хрыста і самі загінулі ад мяча. Паводле царкоўнай традыцыі здарылася гэта паміж 305 і 313 гадамі.

Мошчы Св. Кацярыны (галава і рука) знаходзяцца ў манастыры Ёй прысвечаным на Святой Гары Сінаі. Памяць Святой Велікамучаніцы ўшаноўваем 7 снежня (24 лістапада паводле старога стылю).

**С. Н.**




*БАРЫС РУСКО*

**СЦЮЖА**

Вітаю гэту бель без радасці,
бы падхапіўшы дотык савана.
Пазачасовасць зябкая, падзяраю,
як заваконны свет.
Хай бягуць стрэлкі па выбоінах
гадзінніка майго — я магу марыць.
У пузырыстай вады акасцянеласці
магчымасці гэтай няма —
узоры вытанчаны зорныя
застылі, бы твар нябожчыка.

**ДАТЫКАННЕ ВАЧЫМА**

Вочы датыкаюць свет мякка, як шоўк цела,
То настрой зменлівы. Лязом марозным крышыць
душу на кавалкі, каб праз хвіліну цёплым
пер'ем сесці на здзіўленых вуснах.
У вачах няма гарачага азарту. То рукі заграбушчыя.
Хоць часам так бязгрэшна песцяць.
Вочы крыві не церпяць. Дык разня — выпадковасць?
Чаму ж яе так многа? Хай
застапорыцца эшафот у палёце.
Вочы павек не закрываюць. То смерць
зашчапляе павекі на кручок. Вочы
датыкаюць свет лагодна.

* * *

Сляза, уціснутая ў вачэй бяздонне, лопнула.
Улілася ў асаблівасць.
Сляза, уціснутая ў вачэй бяздонне, лопнула.
Рассеялася ў нябыт.
Нябыт — сляза вечнасці.
Чым ёсць мая сляза?
Асаблівасцю ў нябыцце
ці нябытам у асаблівасці?
А мо звычайнай вадою запраўленай
дробкай солі, вылузанай з зямной нядолі.

# ПАМЁР а. АЛЕКСІЙ НЕСЦЯРОВІЧ

У суботу 20 лістапада памёр настаяцель Святаільінскага прыхода ў Беластоку протаіерэй Алексій Несцяровіч. Адслужыўшы Святую Літургію і Паніхіду закончыў Ён сваё жыццё ў дарозе з царквы да прыхадскога дома.

23 лістапада 1993 г. са сваім настаяцелем развіталіся прыхаджане і духавенства Беластоцка-Гданьскай епархіі. Багаслужбу за душу памерлага адправіў Уладыка Сава.

 

# КАБ ЯНЫ ВЕДАЛІ, ШТО ДУМАЕ НАРОД БЕЛАРУСІ...

☛ *Працяг са стар. 4*

— Сёння не сакрэт, што наша дзяржава даведзена пракамуністычным кіраўніцтвам да катастрофы. Апынуліся мы на краі бездані, і няма перад намі прасвету, калі намі будзе кіраваць той жа ўрад... Наперадзе ў нас адзінае выйсце — змена кіраўніцтва, перш за ўсё Саўміна, роспуск Вярхоўнага Савета. Пачынаецца сесія ВС, ад якой наўрад ці можам чакаць сур'ёзных рашэнняў на карысць нацыянальных інтарэсаў, перабудовы эканомікі на тых пачатках, якія маглі б правесці да стабілізацыі становішча ў Беларусі. А патрэбная новая канстытуцыя, новы выбарчы закон і новыя выбары...

Дэпутат гарадскога савета Аляксандр Гаркоў, пабыўшы 3 гады ў гарсавеце прыйшоў да вываду, што савецкая ўлада ў сённяшнім выглядзе гэта орган прaступны ў адносінах да свайго народа. Саветы неабходна рэфармаваць. Цяпер яны — орган мёртвы, не ў змозе дзейнічаць. Перад новымі выбарамі выбаршчыкі павінны дакладна прыглядзецца кандыдатам, даведацца пра іх, самі прапанаваць адпаведных людзей.

— Не купіцеся яшчэ раз! Толькі наша пасіўнасць давяла нас да гэтага стану, калі ў нас самыя жабрачыя зарплаты і высокія цэны! Літоўцы ахвяравалі свой дабрабыт, каб звацца народам, і цяпер жывуць лепш за нас! — закончыў.

— Будзіце людзей! — заклікалі дэпутаты. — Расказвайце народу! Бо праўда не да ўсіх даходзіць, гэта відна з колькасці прыйшоўшых на мітынг. Калі мы выймем галовы з пяску, дзе на кухні праклінаем і ўладу, і ўсё навокал, народ прачнецца. Бо выбар — за народам!

— Мы прыйшлі з краіны „развітога сацыялізма" ў краіну мафіёзнага сацыялізма! — сцвердзіў паляк Юрый Бычэк, сябра Грамадска-палітычнага аб'яднання імя К. Каліноўскага. Паставіўся ён востра да нацыянальнай справы, справы закранутай у заяве Вярхоўнага Савета:

— Ці можа хто раз'яднаць палякаў з беларусамі? Мы жылі разам, нашы бацькі палівалі потам і крывёю гэту зямлю! Цяпер хочуць угнаць клін паміж беларусаў і рускіх! Не атрымаецца! Таму, што нармальныя рускія, якія паважаюць зямлю і той народ, з якім жывуць, гэтага не зробяць! Naród polski zawsze szedł drogą z Białorusinami! I teraz w gazecie „Głos znad Niemna" Polacy zwracają się do swoich, aby podtrzymali ideę jedności z Białorusinami!

— Вялікі дзякуй, што вы ў чарговы раз адгукнуліся на наш заклік прыйсці сюды, каб сваёй прысутнасцю аказаць пэўны ўціск на сесію Вярхоўнага Савета, — звярнуўся да слухачоў дэпутат ВС Мікола Маркевіч. — Па сутнасці, размова ідзе аб вызначальным часе для нашай рэспублікі. Думаю, што не трэба спекуляваць на цяжкасцях і казаць, у якім мы зараз стане. Кожны з нас адчуў гэта сам на сабе, калі зарплаты не хапае нават на 2 тыдні нармальнага жыцця. Не кажу ўжо пра ўсё астатняе. Усе ведаем справу з паліўна-энергетычным крызісам, з гіперінфляцыяй, і ў той жа момант, паглядзіце, чым заклапочаны наш урад! Вось апошні прыклад: „5 ноября 1993 г., Совет Министров, Зворот к гражданам Республики Беларусь!" Я з хваляваннем адкрываю газету, думаю, можа гэты раз Кебіч і яго хеўра задумаліся пра тое, што рабіць з эканомікай, выпраўленнем становішча ў аграрпамысловым комплексе, які, на сённяшні дзень, калі не прывесці самыя неадкладныя меры па фінансаванні закупак сельскагаспадарчай вытворчасці — ужо праз паўтара-два месяцы ляжа і ў крамах не будзе нічога... Чым заклапочаны Кебіч? Я працытую толькі адзін абзац: „В последнее время на предприятиях, в организациях, учреждениях, учебных заведениях республики, а также через печать, радио и телевидение по инициативе Белорусского народного Фронта, „Беларускага згуртавання вайскоўцаў", руководителей ряда профсоюзов и оппозиционных политических сил распространяются слухи, листовки, призывы, провоцирующие население на массовые гражданские беспорядки и незаконные действия. В них звучат открытые угрозы в адрес правительства, содержатся призывы к созданию боевых дружин, вооружённым выступлениям, оскорбительные выпады *(смех слухачоў)* в адрес русского народа!" Паважаныя сябры! Той, хто мае розум, паглядзіце, чым заклапочаны Кебіч і яго хеўра! Той, хто мае розум, можа сам зрабіць высновы, ці не кожная літара ў гэтым звароце — гэта хлусня, нахабная, правакацыйная хлусня! І глядзіце апошні абзац: „**Правительство твёрдо стоит** на позициях сохранения конституционного порядка...". Для „непросвещённых" я скажу: правительство твёрдо стоит на обороне сваёй улады. „...Будет защищать его всеми имеющимися в нашем распоряжении силами и средствами. Организаторы и участники провокационных акций, любых других противоправных действий получат самый жёсткий и решительный отпор!" Вы разумееце абсурднасць і парадаксальнасць сітуацыі? Завёўшы ў гэта балота, завёўшы нас у гэтую пастку, яны нас яшчэ і папярэджваюць, што „калі вы будзеце казаць пра гэта, пратэставаць супраць гэтага, будуць прымаць „жорсткія меры"! Гэтыя людзі нічога не зразумелі, па-ранейшаму думаюць катэгорыямі сілы, па-ранейшаму лічаць нас за быдла, якое ўсё вытрымае, будзе цярпець іхнія парадкі, іхнюю так званую „законнасць"! Не дайма сябе падманыць! Тыя, хто не змогуць быць у Менску 9 лістапада, каб падтрымаць ідэю аб роспуску Вярхоўнага Савета і аб адстаўцы ўрада, пашліце свой ліст, тэлеграму на адрас ВС, у сваім доме, двары, на працы выкажыце свае адносіны да той сітуацыі, якая склалася зараз. Я ўпэўнены, калі мы прамоўчым і ў гэты раз, не далей як у гэтую зіму мы і нашыя дзеці будзем пажынаць плён нашай пасіўнасці. Я ўпэўнены, што перамога будзе за намі!"

А „зварот" ужо задзейнічаў. Цэнзура не пусціла па радыё прамову кіраўніка аб'яднання імя К. Каліноўскага:

— Чырвона-карычневыя сілы знайшлі прытулак у Беларусі пасля маскоўскага мяцежу... Камуністы Гродна, якія збіраюцца ў Аўтамагнітоле і кааперацыйным тэхнікуме ў сваіх прамовах з такой знявагай, з такой нянавісцю адносяцца да беларусаў, да народу, які жыве ў Беларусі. Рыхтуюць тое, што падрыхтавалі ў Маскве. Саюз афіцэраў, Белая Русь, Движение за социальный прогресс и справедливость найшлі прытулак у Менску, Гародні, Барысаве, Віцебску, Гомелі. Беларусь не павінна быць камуністычным сметнікам! 8 красавіка на плошчы Незалежнасці нас стаяла 8 тысяч, а не 80, а рады амонаўцаў стаялі насупраць нас, уся плошча скандавала: „Здраднікі". Усе сілы мы павінны 9 лістапада кінуць на плошчу Незалежнасці, каб адстаяць сваю свабоду і незалежнасць, свае гонар і годнасць! Хопіць аб нас выціраць чырвоныя боты! Прывядзем словы Кастуся Каліноўскага: ***Не будзе праўды, не будзе багацця і ніякай навукі, адно намі, як скацінай, варочаць будуць не для дабра, а на пагібель нашу!***

Не выключана, што ўрад схоча выкарыстаць супраць нас сілу. Толькі наша агульная воля можа іх прымусіць. Нельга быць абыякавым да лёсу Радзімы, асабістага і лёсу наступных пакаленняў.

— Пробудитесь! Пусть живёт спокойная Беларусь! — гучалі заклікі і на рускай мове. Выступіў таксама і немец, нашчадак таго працавітага народу, які прывёз у Гародню з сабою Тызэнгаўз. На прыступкі выйшлі і простыя выбаршчыкі. Вельмі ўсхвалявала ўсіх скромная жанчына, якая дрогкім, поўным слёз голасам сказала:

— Я цяпер не слухаю тэлебачання, бо там абы-што. Але паслухала я заяву Кебіча і думаю: што гэты Кебіч да мяне мае!? Я іх люблю і шкадую, бо зараз мы ўсе пад Богам жывем, і Суд Божы будзе, і ўсе будуць пакутаваць за зладзеянасць — і бацька, і сын, і нават унук. Няхай тыя з ураду адыдуць сабе мірна, думаю. Малю Бога, каб ён дапамог нам усім, а ім даў розум, каб сабе па-шнурочку, па-рангу сабе пайшлі!

А недалёка ад нашай грамады прабег спадар у балоневай куртцы і закрычаў:

— Освободить Беларусь от белорусов! Заўтра, пэўна, прыйдзе пад Леніна.

Ноччу Гродна гуляла. Усхваляваная падзеямі цёця Фаня Царан з „Паходні" ляжала непрытомная, — разбалелася сэрца, а ад суседаў даляталі песні. „Маладыя і небагаты, забяры мяне дахаты...", „Яблоки на снегу...", „Касіў Ясь канюшыну"... Народ стараўся не плакаць.

**МІРА ЛУКША**

# МАЕ ЎСПАМІНЫ

Можна запытаць: навошта каму чужыя ўспаміны і якая з іх карысць? На маю думку, чужыя ўспаміны могуць падказаць, што можна зрабіць добрага не толькі сабе але і сваім дзецям ці ўвогуле маладому пакаленню, якое бярэ прыклад ад старэйшых людзей. Калі мы былі маладымі, кожны з нас закладаў сям'ю, каб было каму нас заступіць. Працэс гэты адвечны, універсальны. Многія з нас прыйшлі ў горад з вёскі ў пошуках лягчэйшага жыцця. Адны ішлі вучыцца, іншыя знаходзілі сабе работу, каб утрымаць сям'ю. У пяцідзесятых гадах у Беластоку пачало дзейнічаць Беларускае грамадска-культурнае таварыства. Арганізавала яно розныя мерапрыемствы, на якія прыходзілі і людзі пажылыя, і моладзь. На гэтых сустрэчах яны ўзаемна знаёміліся, знаходзілі сяброўак і сяброў. Кожны мог там гаварыць на сваёй мове, якой навучыўся ад бацькоў. Таварыства не забывала пра наймалодшых, якім арганізавала ёлку. Такія ініцыятывы прыводзілі да яднання ўсіх беларусаў. У апошнія гады людзі самі прыходзілі ў БГКТ і прапанавалі сваю дапамогу, не патрабуючы заплаты; пра такіх людзей ніколі нельга забываць. Трэба таксама прыпомніць і пра моладзь, каб яна, ініцыятыўная, прыходзіла ў Таварыства і там сустракалася. Пара ўжо абудзіцца і ўзяцца за работу. Ад добрай работы будзе добры ўраджай і то ў хуткім часе.

**МІКАЛАЙ ПУЧКО**

# ЯК ПЛАКАЛІ ПАСЛЯ СМЕРЦІ СТАЛІНА

Дзень смерці Сталіна, 5 сакавіка 1953 года помню вельмі добра: надвор'е было хмарнае — сонца чамусьці не свяціла. У вёсцы толькі аб гэтым і гаварылі; то тут, то там плакалі. Адна жанчына казала другой: „Помніш, учора высока гудзеў самалёт, гэта пэўна лякарства вязлі вялікаму Сталіну". Найцікавейшыя падзеі адбываліся аднак у хаце аднаго партыйнага чалавека, куды мясцовая ўлада склікала сход сялян, прысвечаны смерці „бацькі ўсіх народаў". Мы, малыя, стаялі на двары пад вокнамі і ўсё дасканала чулі і бачылі. Адкрываў сход мясцовы камуніст; не мог ён нармальна гаварыць: усхліпваў толькі, а слёзы капалі на стол. А пасля як не зараве дзікім плачам, што аж усе пераляканіся; гаспадар хаты таксама расплакаўся. Стала не да смеху і людзі пачалі паасобку вышмыгваць з хаты і хутка асталіся адны толькі прыхільнікі Сталіна. Ну што ж, нашы простыя людзі не ведалі, якое вялікае спаткала іх гора.

**МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК**




**ЧАСТКА XXII**

*Заканчэнне*

# ВАЙСКОВЫ САЮЗ БЕЛАРУСІ З РАСІЯЙ

Некалькі маіх знаёмых паставіла мне закід, што я аднолькава трактую тых, хто выказваецца за і супраць вайсковага саюза Беларусі з Расіяй. І гэта праўда. Я сапраўды аднолькава трактую і тых, хто выказваецца за, і тых, хто выказваецца супраць. Я раблю гэта таму, што такога трактавання вымагае элементарны прынцып дэмакратыі. Я асабіста маю на гэта пытанне акрэслены погляд і лічу, што кожны чалавек мае права мець уласны.

У сувязі з тым, што грамадская думка ў Беларусі выразна падзелена ў гэтай справе, адзіным спосабам на яе вырашэнне быў бы, паводле мяне, рэферэндум, шляхам якога беларускі народ мог бы выявіць свае адносіны да гэтага пытання. Які быў бы вынік такога рэферэндуму, я не ведаю. Зусім магчыма, што перамаглі б у ім староннікі вайсковага саюза з Расіяй. І калі б так сталася, дык тая частка грамадства, якая была б супраць саюза, мусіла б падпарадкавацца большасці. Зусім, аднак, магчыма, што перамаглі б праціўнікі вайсковага саюза і гэта, на маю думку, стварыла б для Беларусі акрэсленыя карысныя перспектывы. Наколькі мне вядома, многія арганізацыі Беларусі дамагаліся правядзення рэферэндуму ў гэтай справе. Аднак, як дагэтуль, урад не пайшоў на такое вельмі дэмакратычнае вырашэнне і сам пастанавіў за народ.

Чаму я асабіста баюся вайсковага саюза Беларусі з Расіяй? Аб прычынах гэтай боязі я ўжо гаварыў у многіх адрэзках майго цыкла. Да прыведзеных мной аргументаў прагну сёння дадаць яшчэ адзін.

Як вядома, Беларусь сёння знаходзіцца на этапе пераходу ад залежнасці і зняволення да незалежнага дзяржаўнага быту. Зразумела, што нельга стварыць нацыянальную дзяржаву без нацыянальнай арміі. Прысутнасць у Беларусі Рускай арміі адцягне на цэлыя дзесяткі гадоў магчымасць узнікнення сапраўднай беларускай дзяржавы. Горкі лёс палкоўніка Міколы Статкевіча, які на пачатку бягучага года быў выгнаны з беларускай арміі за тое, што прагнуў яе беларусізаваць, сведчыць аб тым, што русіфікатары адчуваюць сябе дасканала і ў беларускім дзяржаўным апараце, і ў вышэйшых установах Рэспублікі Беларусь, і ў яе арміі. Пакуль што не відаць ніякіх сімптомаў, якія сведчылі б аб тым, што беларуская армія набывае нацыянальнае аблічча. Па Мінску шастаюць суворацы, высокія і сярэднія афіцэрскія чыны, а таксама радавыя салдаты і ніхто з іх нават не думае сказаць беларускае слова. У далейшым у арміі пануе расейшчына, як панавала пры цары і пры Сталіне.

Змянілася ўсё. Упаў царызм, разваліўся Савецкі Саюз, узнікла незалежная дзяржава Рэспубліка Беларусь, а расейшчына ў Беларусі як квітнела, так і квітнее. І несумненна армія з'яўляецца адным з галоўных яе носьбітаў і гарантаў. Усе рускія гэта разумеюць і робяць усё, каб захаваць сваю прывілеяваную пазіцыю. Беларусы вядуць сябе так, быццам не разумелі нічога і як бы ім усё роўна, які будзе лёс іх радзімы.

Хацелася б верыць, што ў Рэспубліцы Беларусь з кожным годам будзе ўсё болей староннікаў гэтай ідэі нацыянальнай беларускай дзяржавы і ўсё менш яе праціўнікаў.

Тры гады таму назад, калі ўзнікла Рэспубліка Беларусь, здавалася мне, што на працягу кароткага часу ўзнікне нацыянальная беларуская дзяржава. Тады быў я аптымістам. Сёння ў маім аптымізме нямала песімізму. Не, не перастаў я верыць у адраджэнне Беларусі, аднак ведаю, што ваенны саюз Беларусі з Расіяй гэтаму адраджэнню не дапаможа, а перашкодзіць.

**АЛЕСЬ БАРСКІ**



 

ЗЁЛКІ-ЛЕКІ

# ЯДЛОВЕЦ

Ядловец звычайны (*Juniperus communis* L.) гэта кустарнік, ці, хутчэй за ўсё, невялікае дрэўца з сям'і кіпарысавых (Cupressaceae), а расце ў Еўропе, Азіі і Паўночнай Амерыцы. У Польшчы можна сустрэць ядловец як у сухіх сасновых барах, так і ў вільготных ельніках, на берагах рэк і азёр, на махавых балотах і на горных схілах. Часамі яго садзяць у парках і агародах у якасці дэкаратыўнай расліны. На жаль, сённяшнія азеляняльныя службы прысвячаюць мала ўвагі пасадкам ядлоўцу. А шкада! Гэты куст апрача сваёй дэкаратыўнай прыгажосці яшчэ і дасканалы санітар. За суткі адзін гектар ядлоўцу выдзяляе амаль трыццаць кілаграмаў фітанцыдаў, а гэта дастаткова, каб ачысціць ад хваробатворчых мікраарганізмаў паветра вялікага горада.

На другім годзе жыцця на галінках ядлоўцу паяўляюцца мясістыя шышкі, па выгляду напамінаючыя ягады. Гэтыя чорнага колеру з шызым налётам плады расліны, якія называюць ядлоўцавымі ягадамі, з'яўляюцца адным з старэйшых і найбольш папулярных лекавых сродкаў. У мінулым яны шырока выкарыстоўваліся як унутраныя, так і знешнія сродкі ў выглядзе настоек, адвараў, экстрактаў ці парашкоў пры малярыі, туберкулёзе, нервовых хваробах, рэўматызме, падагры, камянях у нырках ці печані і іншых захворваннях. Сырыя ягады выкарыстоўваліся пры язве страўніка і кішэчніка, супроць глістоў. Лічаць, што лячэбны эфект ядлоўцавых ягад абумоўлены эфірным маслам, якое знаходзіцца ў іх.

У сучасны момант прымяненне ядлоўцу як лячэбнай расліны абмяжоўваецца ў асноўным выкарыстаннем яго ягад у якасці мачагоннага сродка. З гэтай мэтай робяць настойкі ці састаўляюць спецыяльныя гарбаты, у якіх ягады ядлоўцу спалучаюць з травой хвашчу, карэнішчам пырэю, лісцем талакнянкі, пупышкамі бярозы, пладамі пятрушкі, кветкамі васілька.

Адну сталовую лыжку сумесі гэтых траў заварваюць шклянкай кіпетню, настойваюць на працягу паўгадзіны, тады ахаладжваюць, працэджваюць і прымаюць па 1 сталовай лыжцы некалькі разоў у дзень за 15-20 мінут да яды. Прытым неабходна рабіць гэта асцярожна, паколькі пры прыёме вялікай дозы эфірнае масла ягад можа выклікаць атручэнне, выклікаючае запаленне нырак. Цяжарным жанчынам нельга прымаць прэпараты з ядлоўцу.

Апрача таго, ягады ядлоўца выкарыстоўваюцца пры застоях жоўці і цяжкасцях, у сувязі з гэтым, пры засвойванні ежы. Сыравіна гэта ўваходзіць у склад зёлкавых сумесяў *„Cholagoga" I і II* („Herbapol"), якія прымяняюцца пры захворваннях печані. Экстракт з ягад ядлоўца ўваходзіць у склад вадкасці *„Cholesol"* („Herbapol"), які мае якасці жоўцегонныя, адтручваючыя і паляпшаючыя працу страўніка.

Ядлоўцавае масла прымянаецца, як правіла, знешне на скуру ў выглядзе мазяў для разаграваючага націрання пры рэўматычных болях і нервабалях.

Часамі ядловец выкарыстоўваецца ў ветэрынарнай практыцы. Водная настойка з гэтых пладоў часамі прымяняецца для выводжвання насякомых, паразітуючых на целе сельскагаспадарчай жывёлы. Таксама спальваюць на агні ялінкі ядлоўца і абкурваюць дымам жывёлу. Дарэчы, гэты дым мае яшчэ адну сферу прымянення: пры вэнджанні ім мясных вырабаў атрымліваюць прадукты высокай якасці.

Ягады ядлоўцу, якія маюць прыемны арамат, выкарыстоўваюць у нас у лікёра-гарэлачнай прамысловасці, а ў Злучаных Штатах з'яўляюцца падставай славутага джыну.

Эфірнае масла, якое атрымліваюць з ягад ядлоўцу, высока цэніцца ў парфюмерыі.

Сыравіну ядлоўцу збіраюць позняй восенню і зімой. Для збору спелых, цёмнафіялетавых, амаль чорных ягад на зямлі рассцілаюць палотнішчы і лёгка пастукваюць палкай па галінках куста, а пасля сушаць у сушарнях пры тэмпературы 35° С. Атрымліваюць шышка-ягады ядлоўцу (*Fructus Juniperi*), з якіх метадам дыстыляцыі атрымліваюць эфірнае масла (*Oleum Juniperi*). Высушаная сыравіна ядлоўцу можа перахоўвацца ў палатняных мяшках ды ў сухім месцы на працягу некалькіх гадоў.

**ЯДЛОЎЦАВЫ НАПАР**

1 лыжку раздробленых ягад ядлоўцу заліць 1 шклянкай гарачай вады і напарваць пад покрыўкай паўгадзіны. Настайваць 10 мінут і працадзіць. На працягу 5 тыдняў (пасля чаго зрабіць перапынак на 1—2 тыдні) піць па 1—2 лыжкі пасля яды ў якасці сродка мачагоннага, бактэрыязабойчага і жоўцегоннага.

**ЯДЛОЎЦАВАЕ ВІНО**

50 г раздробленых ягад ядлоўцу заліць 1 літрам віна і паволі падаграваць да кіпення. Зняць з агню і пакінуць пад покрыўкай на 3 дні. Працадзіць і пераліць у бутэлькі. Піць штодзень раніцай нашча кілішак віна ў якасці мачагоннага сродка, а на паўгадзіны перад ядой — у якасці сродка, паляпшаючага апетыт.

**ЯГАДЫ ЯДЛОЎЦУ**

Пры захворваннях страўніка і ўздуццях есці свежыя ягады паводле схемы: пачаць ад 4 штук і штодзень з'ядаць іх на 1 ягаду больш — аж да 15 ягад у дзень, пасля чаго штодзень прымаць на 1 ягаду менш — аж да 1 штукі ў дзень, ды на гэтым лячэнне закончыць.

**ВАННА З ЯДЛОЎЦУ**

Закіпяціць 1 кг галінак ядлоўцу і жменю ягад у 2 літрах вады. Астудзіўшы, працадзіць, уліць у ванну і даліць вады тэмпературай 38° С да 1/3 аб'ёму ванны. Прымяняць пры рэўматызме, артрэтызме і некаторых скурных хваробах.

**„CHOLESOL" („HERBAPOL")**

1 чайную лыжачку вадкасці, размешанай у 1/3 шклянкі вады, прымаць 3 разы ў дзень на паўгадзіны да яды пры хваробах печані і слабой працы жоўцевага пузыра.

**ЭСКУЛАП**

# ПЕРАПРАШАЕМ

нашых чытачоў за адсутнасць праграмы Беларускага тэлебачання ў гэтым нумары "Нівы". З Менска прыйшоў да нас па тэлефаксе нечытэльны тэкст, з якім не ўдалося нам разабрацца.

**Рэдакцыя**

# У вянок Ларысе Геніюш

У 1995 годзе вядомай беларускай паэтцы Ларысе Геніюш споўнілася б 85 гадоў. І хоць да гэтага юбілею яшчэ далекавата, ужо цяпер ёсць магчымасць выдаць на яе радзіме зборнік вершаў, прысвечаных таленавітай беларускай паэтцы. Кніжка будзе друкавацца ў Слонімскай узбуйненай друкарні. У першым квартале наступнага года яна павінна з'явіцца ў кнігарнях Беларусі. Фундатары выдання ўжо ёсць.

Таму я звяртаюся да беларускіх паэтаў Польшчы: дасылайце свае вершы, прысвечаныя Ларысе Геніюш не пазней 15 снежня 1993 года на мой адрас: **231800 Беларусь, г. Слонім, вул. Брэсцкая, 107/1-49.** У зборнік будуць уключаны і фотаздымкі Л. Геніюш, яе сяброў і родных. Дасылайце і фотаздымкі, якія пазней уладальнікам будуць вернутыя.

З павагаю —
**Сяргей Чыгрын,**
складальнік зборніка.

## Кухонныя пярэды

*З МАНАСТЫРСКАЙ КУХНІ*

**ФАРШЫРАВАНЫ ШЧУПАК**

Прадукты:
*1 вялікі шчупак,*
*15 дэкаў мякішу пшанічнага хлеба,*
*2 цыбуліны,*
*1 салоны селядзец,*
*2 яйкі,*
*некалькі лыжак алею,*
*пасечаная зеляніна (кроп, пятрушка, зялёная цыбулька), соль, перац, цертая булка,*
*1—2 шклянкі густой смятаны.*

Шчупака абскрэбці, памыць і абсушыць сціракчай. Так падрыхтаваную рыбу надрэзаць уздоўж хрыбта. Перарэзаць хрыбет, аддзяляючы галаву і хвост. Асцярожна адцягнуць скуру ад мяса і выняць сярэднюю частку рыбы. Галаву і хвост пакінуць у скуры, палажыць у халодную ваду.

Мяса рыбы аддзяліць ад касцей і прапусціць праз мясарубку разам з раней намочаным у малацэ хлебам і селядцом. Дадаць пасечаную цыбулю, жаўткі, растопленае масла, прыправы. Усё добра перамяшаць. Падрыхтаваным фаршам напоўніць скуру рыбы, зашыць. Пасыпаць рыбу цертай булкай, падсмажыць цэлую на бляшцы. Тады заліць яе смятанай і ўставіць на некалькі мінут у гарачую духоўку.

**ГАСПАДЫНЯ**

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Дарагі Астроне! І апошні мой сон разгадаў ты трапна. Не адолеў мой муж сваё хваробы. Пахавала я яго. Сумна мне вельмі адной. Пустая хата мая, словам няма з кім перакінуцца, параіцца. І вось сон, які мне прысніўся. Ляжыць варанае мяса — ні то рыба, ні то звярынае мяса. Я вымаю з яго косці і адкідаю ўбок. Раблю гэта як бы не сабе, а камусь. Калі закончыла гэту работу, паявіўся нейкі мужчына ў карычневым касцюме ва ўзросце каля 50 гадоў. Ён кажа: „Сядайце, пагаворым..." Я кажу: „Не магу, мой муж вельмі зайздросны і можа мець прэтэнзіі, а ён зараз вернецца, на трактары прыедзе". Гляджу, едзе, але на трактары сядзіць не муж, а нейкі незнаёмы мужчына. І прачнулася.

А майму сыну прысніўся вось які сон. Быццам я і адна з маіх унучак жывем у іншай кватэры, на іншай вуліцы. Пры гэтым доме расце вялікае зялёнае дрэва. Я палезла на гэтае дрэва, каб адламаць сабе галінку. Стаю на галіне, хістаюся, усё хачу гэтую галінку дастаць. Сын глядзіць на гэта і кажа: „Мама, злазь, бо звалішся!"

Яшчэ мне снілася, што ў маёй кватэры чатыры белыя сыры. Не ведаю, адкуль яны ўзяліся? Хацела спалучыць іх у адзін, але ж прачнулася.

Што могуць абазначаць гэтыя сны, разгадай, прашу, Астроне!

**Кацярына**

Даражэнькая Кацярына! Твае сны і сон твайго сына даволі супярэчлівыя. Можна было б спадзявацца нейкага поспеху, дабрабыту (варанае мяса), але калі, не дай Божа, была там рыбіна, дык, несумненна, чакаюць цябе нейкія непрыемнасці. Гэтыя непрыемнасці могуць вынікнуць з няпэўнай справы (трактар, ды і сядзеў на ім не твой муж, а нейкі незнаёмы мужчына). Відаць, проста нешта, што ты запланавала, чаго спадзявалася, — не выйдзе ў цябе. Бачыш жа, і сыну твайму прысніўся сімвалічны сон. Дрэва, на якое ты ўзлезла, было вялікае і зялёнае, аднак жа ты хісталася, стоячы, на галіне, ды і не ўдалося табе яе адламаць. Што датычыць сыру, дык наогул сыр у сне абазначае няўдачу ў каханні, горкае расчараванне. Ты апекавалася хворым мужам, старалася як магла, а ён і так памёр і засталася ты ўдавою. Вось табе і сны.

# ВІРАВАНКА

1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12

1. кустовая расліна з чырвонымі ягадамі, 2. пара дня, 3. амплітуда, 4. галіна мастацтва, 5. дзівацтва, недарэчнае жаданне, 6. дзве расліны, якія зрасліся, 7. працягласць у папярочніку, 8. горад на поўначы Беларусі, 9. савецкая дзяржаўная „ферма", 10. весялун, непаседа, 11. вызначаны час, 12. конскае мяса.

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку з 42 нумара:

**Гарызантальна:** Крлежа, фрэскі, батрак, кара, Чылі, пастаноўка, гурт, гала, трыяда, капрон, камета.

**Вертыкальна:** крошка, жаба, фрак, Кігалі, трэпанацыя, рапарт, Чыкага, гуляка, лапата, трон, Дака.

Ніва

**"Niwa"**
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok,
ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Міраповіч (галоўны рэдактар), Ян Мордань, Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**

Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na II kwartał 1994 r. upływa 20 lutego 1994 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na II kwartał wynosi 52 000 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką do końca br. wynosi 6000 zł., a kwartalnie - 78000 zł., a od 1.01.1994 r. — odpowiednio 7000 zł. i 91000 zł. (jeżeli nie zdrożeją koszty wysyłki pocztą). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

## ЭПІГРАМА

— Скажы ты, мілы мой дружок,
як дарабіўся ты ў бядзе?
— Вярцеўся моцна па базарах,
круціўся, як той ўюн ў вадзе!

**УЛАДЗІМІР САЎЧУК**

## З НАШАГА ЖЫЦЦЯ

-- Анэта, ці ёсць у вас дома грошы? -- пытаецца суседка чатырохгадовую дзяўчынку.

-- Ёсць. А чаму пытаеце?

-- Калі ёсць, скажы маме, хай табе купіць брацiка або сястру.

-- Што вы кажаце? Гэтага ж за грошы не купіш! Нарадзіць трэба. Але мая мама не хоча, пры сённяшняй бядзе цяжка гадаваць.

* * *

-- Ты мне так падабаешся! Я, мусіць, у цябе закахаўся! -- кажа Юрка Марыне.

-- Ды ў мяне ёсць муж! Адчапіся!

-- Нічога... А што зрабіла б ты, калі б я табе падарыў кветкі?

-- Паставіла б у вазон.

-- А што зрабіла б, калі б даў вялікую каробку шакаладак?

-- А нічога. Разам з дзецьмі і мужам з'елі б. А табе сказалі б "дзякуй".

* * *

-- Чаму ты такі знерваваны? Здаецца, зранку быў у выдатным настроі?

-- Ведаеш, купіў я два кіло шынкі. А пасля пачаў хадзіць па крамах. У кожнай краме -- іншая цана! Мог бы шынку купіць танней на семнаццаць тысяч за кожны кілаграм!!! Таму я так знерваваўся! Што гэтая канкурэнцыя робіць!

* * *

-- Марына пайшла за "рускага", а цяпер праклінае сваё жыццё.

-- Чаму ж?

-- Пасля шлюбу сказаў, што запросіць сваю сястру ў госці.

-- Што ж страшнага -- сястра?

-- Але там, сястра! Прыехала яго каханка!

**АЎРОРА**

## СЕНТЭНЦЫІ

Вір процілегласцяў рэзбіць чалавека.

* * *

Усё з'яўляецца ценем уласнага ценю.

* * *

Лямант па страце нічога не дасць, браце.

* * *

Каханне, бы горны паток, шпаркае і бясконцае.

**БАРЫС РУСКО**

# НІЎКА

ВЯРНІЦЕ НАМ ЎЧАРАШНЮЮ СВЕТЛУЮ БУДУЧЫНЮ!

*Малюнак В. Ключніка*

## ЗДАНІ І ПАЧВАРЫ БЕЛАРУСІ

*(працяг; пачатак у 40 н-ры)*

### ХАТНІЯ ІСТОТЫ

#### Дамавік

Гэтая істота, бадай, самая вядомая і папулярная ва ўсім свеце. Яна не проста бяскрыўдная, але і нават карысная. Дамавік не толькі адганяе шматлікіх злыдухаў, але і дапамагае па гаспадарцы. Праўда, часам і Дамавік не супраць пажартаваць — напрыклад, зачыніць гаспадароў у прыбіральні (вёска Заблудава) ці пакласці гаспадыні ў сумачку здохлага пацука (вёска Вялікія Бадуны). Напэўна, гэтыя цалкам бяскрыўдныя жарты і сталіся адной з прычын таго, што недасведчаныя людзі часам расказваюць ужо зусім неверагоднае — нібыта па начах дамавікі насылаюць на мужчын сон, каб беспакарана гвалціць іх жонак.

Відаць, даўшы веры падобным неверагодным плёткам і брудным інсінуацыям, прапаршчык палка ўнутраных войскаў Ю. здзейсніў непапраўнае: ягоная жонка мылася ў ванне, прыадчыніўшы дзверы, а Дамавік, які з прычыны сваёй сціпласці не трапляўся гаспадарам на вочы, мыў на кухні посуд. З-за шуму вады ані ён, ані жанчына не пачулі, як з працы вярнуўся вайсковец — у той дзень ён удзельнічаў у разгоне дэманстрацыі, а таму не здаў табельную зброю. Убачыўшы на кухні аголенага мужчыну — а дамавікі заўсёды ходзяць без вопраткі — ён разрадзіў у дамавіка ўсе набоі, бо прыняў аголенага за каханка. Прапаршчык хацеў застрэліць і жонку, але на шчасце набоі скончыліся. Вайсковец задаволіўся тым, што са злосці засунуў ёй у похву вантуз. На жаль, вайскоўца асудзілі толькі за дробнае хуліганства, бо ў Крымінальным кодэксе няма артыкула, які б прадугледжваў кару за забойства зданяў і пачвараў.

*(працяг будзе)*

Падрыхтавалі

**ФРАНЦІШАК ХЛУС**

**І МАРЦІН ЮР**

## СМЕХ У САНАТОРЫІ

Адзін пісьменнік прыехаў з жонкай у адлеглую вёску, дзе заквартараваўся ў аднаго селяніна. Удзень пісьменнік выходзіў любавацца прыродай, а ноччу пісаў кнігу. Гаспадару не падабалася, што госць паліць святло ноччу і звярнуў яму ўвагу, што гэта дорага каштуе. Пісьменнік адклікаў гаспадара і канфідэнцыяльна шапнуў:

— Ведаеце, пры святле лепей выходзіць гэта з жонкай.

Ноччу пісьменнік заўважыў, што і ў гаспадара гарэла святло. Раніцай спытаў:

— Ну і як? Лепей пры святле?

— Э-э там. Толькі дзеці папарагаталі.

* * *

— Тата, што гэта такое паранойя?

— Ідзі на кухню і спытай сястры, мамы і бабулі, ці пайшлі б у ложак з мужчынам, калі б той даваў ім за гэта 100 долараў.

Неўзабаве сынок вяртаецца:

— Сястра сказала, што пайшла б не задумоўваючыся, мама — што пайшла б, але толькі за 200 долараў, а бабуля — што пайшла б і за 50.

— Вось бачыш, сынок, маем дома трык... і ніводнага долара. Гэта ёсць і паранойя.

* * *

— Ці ёсць розніца паміж цыцкамі і запалкамі?

— Запалкі прызначаны для дарослых, але гуляюць імі дзеці; з цыцкамі справа маецца дакладна наадварот.

* * *

Каўбой прыехаў да каханкі. Паставіў каня пад акном і прыказаў:

— Чакай тут: калі вернецца муж, я выскачу цераз акно і ўцячэм.

Калі любоўнікі цалаваліся, хтось энергічна пастукаў у дзверы. Каўбой схапіў нагавіцы і выскачыў цераз акно. Дзверы адчыняюцца, кабыла прасоўвае галаву і гаворыць жанчыне:

— Калі мой гаспадар захоча скакаць цераз акно, скажы яму, што я стаю ў сенцах, бо ідзе дождж.

* * *

Пасля сеанса Кашпіроўскага хворы ўскрыкнуў:

— О Божа! Буду хадзіць!

— Вылечыў вас Кашпіроўскі?

— Не, падчас сеанса ўкралі мне самаход.

Прыслаў

**АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК**

## САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Дарагое Сэрцайка! Калі я выходзіла замуж, вельмі цешылася, што ў майго хлопца ёсць старэйшы брат. Я спадзявалася, што ён дапаможа нам у жыццёвым старце, быў жа ўжо сталы, жанаты і на добрай пасадзе, ды нічога яму не бракавала. Дык жа наогул старэйшыя браты малодшым дапамагаюць, а брат майго хлопца быў за яго старэйшы аж на 13 гадоў.

Рэчаіснасць выглядала зусім інакш. Я нават спачатку не разумела, што дзеецца. Хацела любіць брата майго мужа, свайго шваґра, бо ж гэта быў брат каханага чалавека, але з нейкага часу пачала адчуваць у адносінах да маёй асобы холад. І неўзабаве справу праясніла іхняя старая сяброўка. А ні свякруха, ні свёкар не сказалі ні слова.

Тая сяброўка растлумачыла мне, што жонка старэйшага брата нацкоўвае яго на мяне, бо проста закаханая ў... малодшага брата, гэта значыць майго мужа. Таксама было, калі муж хадзіў з папярэдняй дзяўчынай. Усё ў ёй не падабалася маёй швагерцы. А я ж яе добра ведала, бо мы ўсе разам вучыліся ва універсітэце. Дзяўчына была цудоўнай прыгажосці, незвычайна арыгінальная і прыемная наогул. Са-праўды, калі гаварыць пра яе выгляд, дык нічога ёй не бракавала. Ну, але нешта ў іх не выйшла. Аднак жа не я была прычынай іх расстання. Тая дзяўчына вельмі перажывала і пачала прыходзіць да сям'і старэйшага брата. Было ёй так, відаць, лягчэй. І тады стала яна для маёй швагеркі „анёлам". Пэўна анёлам, бо д'яблам цяпер была я, жонка малодшага брата, які не быў ёй абыякавы.

На мне яна не пакідае сухой ніткі. Быццам бы я ўзяла хлопца на цяжарнасць. А як жа яна выходзіла замуж? Таксама! У шостым месяцы нават, а не у трэцім, як я.

Калі б яшчэ мая швагерка расказвала ўсім навокал розную лухту пра мяне, а не кранала мяне пры сустрэчах, было б яшчэ так-сяк. Але яна пачынае мне чыніць розныя імпертыненцыі ў вочы, у прысутнасці сям'і, а часамі і гасцей. Адкуль яна ўзялася, гэта графіня?! У нас жа вельмі падобнае паходжанне, бацькі — звычайныя працоўныя людзі, а вось швагерка ж аднекуль набралася манераў... Робіць мне розныя заўвагі, якія мяжуюць з абразай, а яе муж не робіць з гэтага праблемы, а часамі дапамагае ёй. Што горш, робяць ужо гэта нават іхныя дзеці.

Я ўсё гэта ўспрымаю вельмі балюча, але маўчу і толькі ўсміхаюся. Не хачу рабіць прыкрасцей свайму мужу. Але, скажу, Сэрцайка, што ўжо гэта мяне пачынае шакіраваць. Кепска адчуваю сябе ў іх кампаніі, быццам бы была нейкай папялушкай. Часам маю ахвоту агрызнуцца, але ўсё сябе неяк стрымліваю.

Скажы, што мне рабіць? Я ж не магу не быць у свёкраў на нейкай урачыстасці ці зусім перастаць хадзіць да шваґра. Гэта б мяне зусім выэлімінавала з сям'і! Маю вялікія праблемы, Сэрцайка.

**Ганна**

Ганулья! Вельмі добра цябе разумею і сардэчна спачуваю табе. Тыя манеры тваёй швагеркі паходжання, на жаль, не зусім арыстакратычнага. Чалавек з высокай культурай не будзе абгаварваць усім навокал сваіх бліжніх. Наадварот, павінен бараніць іх, калі хто скажа пра іх кепскае слова. Культурнага чалавека характарызуе скромнасць і стрыманасць у кампаніі, бо, можа, гэтыя яе імпертынэнцыі і іншым не даставляюць радасці.

Думаю, што ўсё тут вынікае з зайздрасці, якая грызе тваю швагерку. Што яна — маці-зямля, што хоча ахапіць усіх мужчын навокал?! Нават калі была яна закаханая ў твайго мужа, дык, бачу, што ён ёй да гэтага ніякіх падстаў не даў.

Варта часам агрызнуцца! Спачатку спакойна: „Майму мужу гэта падабаецца!", або: „Мой муж мне нічога пра гэта не гаварыў!", або: „Калі мяне папросіць мой муж, я змяню колер сваіх валасоў!"

Твае паводзіны элегантныя: ты проста прамоўчваеш гэтыя заўвагі. Але ў гэтым выпадку крыху агрэсіі і з твайго боку не пашкодзіць. Станyць цябе, можа, больш цаніць.

**СЭРЦАЙКА**